# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 12 мая 1994 года | № 48 (10748) | Цана 100 руб.


ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ ● АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

■ Покліч вясны

## БЕЗ НАГЛЯДУ "ЗВЕРХУ"

Халодная сёлета вясна. Аднак, нягледзячы на такое надвор"е, розныя эканамічныя і матэрыяльныя цяжкасці, хлебаробы ўсіх раёнаў і гаспадарак вобласці імкнуцца не спыняць работы на грамадскіх палетках. У выніку на ўчарашні дзень яравыя пасеяны ўжо на 78 працэнтах плошчаў.

Найбольш спорна работы ідуць на палях Нясвіжчыны. Тут поўнасцю пасеяны ўжо збожжавыя і зернебабовыя. На ўсёй плошчы пасаджаны цукровыя буракі, бульба. Засталіся толькі познія яравыя — напрыклад, грэчка. Усяго ж living рознымі культурамі тут занята ўжо 94 працэнты палёў.

У гаспадарках Капыльскага і Стаўбцоўскага раёнаў яравыя сеюцца ўжо на апошняй чвэрці палеткаў. Калгасы Барысаўскага, Капыльскага, Любанскага і Чэрвеньскага раёнаў закончылі сеяць лён. Па вобласці ён заняў ужо 89 працэнтаў адведзеных плошчаў.

Паўсюдна ў разгары пасадка бульбы. Яна пасаджана ўжо на 69 працэнтах прызначаных для яе плошчаў. Набліжаецца да завяршэння пасадка ў Клецкім /97 працэнтаў/ і Капыльскім /87 працэнтаў/ раёнах.

Без асаблівых збояў, як таго патрабуе весновая пара, ідуць палявыя работы і ва ўсіх астатніх раёнах вобласці. Цяпер няма кантролю "зверху", і хлебаробы, спецыялісты гаспадарак імкнуцца самастойна, як найдакладней захаваць тэхналогіі падрыхтоўкі глебы, сяўбы кожнай культуры. Людзі спадзяюцца толькі на сябе, бо ведаюць: што пасееш, тое і пажнеш.

*Іван АБАБУРКА.*

■ Конкурсы

## Лаўрэаты Міжнароднага названы

Як паведамлялася ўжо, у Барысаве прайшоў Першы міжнародны конкурс юных піяністаў, прысвечаны аднаму з заснавальнікаў беларускай піяністычнай школы І.А.Цвятаевай. У ім прымалі ўдзел юныя таленты амаль з усіх рэгіёнаў нашай рэспублікі, з Расіі, Латвіі, Калмыкіі.

Заключныя акорды свята музыкі прагучалі ў гарадскім Палацы культуры, дзе ва ўрачыстай абстаноўцы падведзены вынікі конкурсу.

Спадзяюся, кожны, хто прысутнічаў на выступленнях юных канкурсантаў, зрабіў для сябе адкрыцці. Конкурс паказаў, што сярод пачынаючых музыкантаў ёсць "зоркі", якіх чакае вялікая будучыня.

Высокую ацэнку Першаму міжнароднаму конкурсу юных піяністаў дала старшыня журы, прафесар Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі народная артыстка Расіі Т.П.Краўчанка.

Таццяна Пятроўна адзначыла цёплую, дружалюбную атмасферу, зладжаную работу журы. І выказала сардэчную падзяку арганізатарам мерапрыемства, якія нават у такі складаны час эканамічнага бязладдзя асмеліліся на яго правядзенне і стварылі для яго ўсе ўмовы.

Самым хвалюючым момантам было абвяшчэнне вынікаў. Намеснік старшыні журы — мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі, заслужаны артыст Беларусі Ю.М.Гільдзюк назваў імёны лаўрэатаў. Дыпломы трэцяй ступені, грашовыя прэміі, а таксама каштоўныя падарункі — прызы спонсараў атрымалі выхаванец Рыжскай спецыяльнай музычнай школы Эдгарс Рагінскіс і навучэнка Рэспубліканскага музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Караліна Кірыльчык. Дыпломамі другой ступені, прэміямі і прызамі ўзнагароджаны навучэнцы Слуцкай дзіцячай музычнай школы Яўген Кулевіч і музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Дзяніс Маслюк. А пераможцамі конкурсу прызнаны Вікторыя Бабіч з горада Элісты, якая займаецца ў студыі педпрактыкі пры музычным вучылішчы сталіцы Калмыкіі, і Павел Ялецкі — выхаванец сектара педпрактыкі пры музычным вучылішчы горада Маладзечна. Дарэчы, Павел стаў уладальнікам і галоўнага прыза конкурсу — піяніна "Беларусь", устаноўленага адным са спонсараў — калектывам вытворчага аб"яднання "Белмузпром".

Ад прадстаўнікоў іншых спонсарскіх арганізацый дзесяць удзельнікаў конкурсу атрымалі спецыяльныя прызы: за піяністычную перспектыву і за віртуознасць выступлення, за выкананне беларускай музыкі і за выкананне музыкі XX стагоддзя, прыз Беларускай акадэміі музыкі і прыз "Надзея". А вось выхаванец дзіцячай музычнай школы № 1 горада Брэста Расціслаў Крымер і навучэнец музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Яўген Маліноўскі ўзнагароджаны спецыяльнымі прызамі І.А.Цвятаевай. Дар сям"і Цвятаевых — пейзажы, напісаныя бацькам Ірыны Аляксандраўны — Аляксандрам Іванавічам, уручыла ганаровы госць конкурсу, дачка знакамітага педагога Алена Іванаўна Васільчанка, якая стала прадаўжальніцай справы сваёй маці, з"яўляецца дыпламантам міжнароднага конкурсу, працуе дацэнтам Беларускай акадэміі музыкі.

*Мікалай ЧАЛЕЙ,*

## Цікаўцеся, не пашкадуеце

У другой палавіне мая на базе калектыўнай гаспадаркі "Палачаны" Маладзечанскага раёна пройдзе рэспубліканскі семінар, на якім прысутныя змогуць азнаёміцца з узорамі айчыннай сельскагаспадарчай тэхнікі. Мэта яго — паказаць, на што здольныя прадпрыемствы рэспублікі, людзі творчай думкі, спецыялісты: з улікам нашых магчымасцей выпускаць інвентар, які завозіўся раней з Украіны, Расіі, іншых рэспублік былога Саюза. Разам з прадпрыемствамі, якія выпускалі і выпускаюць сельгасінвентар, удзел у семінары прыме і Цэнтральны навукова-даследчы інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Ён дэманструе плугі, культыватары, камбінаваныя агрэгаты, іншы інвентар, выраблены ўласнымі сіламі. У майстэрнях НДІ мы сустрэлі старшага навуковага супрацоўніка, кандыдата сельскагаспадарчых навук А.З.Пілецкага.

— Плугі, якімі карыстаюцца цяпер нашы гаспадаркі, у рэспубліцы не выраблялiся, — падзяліўся думкамі Аляксандр Зіноўевіч. — Цяпер яны вельмі дарагія і металаёмістыя. Мы ж паставілі сваёй задачай аблегчыць іх, выкарыстоўваючы пры гэтым серыйныя дэталі, а таксама захаваць тэхналогію апрацоўкі глебы. Гэта дасць магчымасць эканоміць паліва і зрабіць сельгасінвентар таннейшым.

Наколькі творчаму калектыву НДІ ўдалося вырашыць гэтыя праблемы, удзельнікі семінара змогуць пераканацца не толькі ў час агляду сельгасінвентару, але і ўбачыць яго ў рабоце. Так што, калі хто-небудзь з кіраўнікоў гаспадарак зацікаўлены ў эфектыўным айчынным, недарагім па сённяшніх мерках інвентары, ведайце: яго рыхтуюць да выстаўкі ў "Палачанах".

*Анатоль Лійко.*

### ВІНШАВАННЕ З КІЕВА

На імя старшыні абласнога Савета дэпутатаў А.І.Цішкевіча прыйшла тэлеграма прадстаўніка прэзідэнта Украіны па Кіеўскай вобласці І.М.Капштыка, у якой ён перадае шчырыя віншаванні працаўнікам Міншчыны з Днём Перамогі, жадае ўсім моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту. "Пераканаfamы, што мужнасць і воля нашых байцоў да Перамогі ёсць і будуць яркім прыкладам, крыніцай дружбы, узаемаразумення нашых народаў".

## ПАКЛОН ВАМ НІЗКІ, ПЕРАМОЖЦЫ!

Шырока і ўрачыста адзначыў беларускі народ светлае свята "с сединою на висках... со слезами на глазах" — 49-ю гадавіну Перамогі над гітлераўскім фашызмам.

Сардэчныя словы падзякі, глыбокай павагі пачулі 7 мая ветэраны з вуснаў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Мячэслава Грыба і Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Вячаслава Кебіча. Кіраўнікі дзяржавы і ўрада наладзілі прыём у гонар Герояў Савецкага Саюза і кавалераў ордэна Славы трох ступеней. Адбылася змястоўная размова аб праблемах ветэранаў, якія разам з усёй рэспублікай перажываюць цяжкі час эканамічнага і сацыяльнага крызісу. Героі выказалі сваю думку аб шляхах выхаду рэспублікі са складанай сітуацыі.

Яркім, па-летняму цёплым выдаўся ў сталіцы святочны Дзень Перамогі. З раніцы на вуліцы і плошчы выйшлі цэлымі сем'ямі мінчане і госці сталіцы. У цэнтры ўвагі, вядома, былі пераможцы — былыя пехацінцы і сапёры, лётчыкі і танкісты, маракі і артылерысты. Усё менш іх застаецца, тых, хто "по-пластунски пол-Европы пропахали".

Святочна ўпрыгожана флагамі плошча Перамогі. Высока над ёю пад майскімі промнямі сонца паблісквае гіганцкі ордэн "Перамога", што вянчае помнік-абеліск героям, якія аддалі жыццё за вызваленне Беларусі ад фашысцкіх акупантаў.

9 гадзін 30 мінут. Пад мелодыю зводнага духавога аркестра Міністэрства абароны пачынаецца ўрачысты рытуал ускладання кветак, вянкоў і гірлянд Славы да падножжа помніка-абеліска. Вянкі ўскладаюць дэлегацыі Вярхоўнага Савета рэспублікі на чале з яго Старшынёй Мячэславам Грыбам, Савета Міністраў Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, рэспубліканскай ветэранскай арганізацыі, Міністэрства абароны, прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, духавенства. Мінутай маўчання пад журботны бой метранома ўдзельнікі рытуалу разам з тысячамі мінчан і гасцей, якія прыйшлі на плошчу, ушанавалі памяць герояў і ахвяр Вялікай Айчыннай. Аддаючы воінскія ўшанаванні, па пляцоўцы цырыманіялаў прайшла рота ганаровай варты Мінскага гарнізона.

Вянкі і кветкі ад удзячных жыхароў Беларусі ляглі да ўсіх помнікаў на воінскіх могілках, брацкіх магілах, пахаваннях у гарадах і вёсках рэспублікі.

Адбыліся мнагалюдныя святочныя гулянні ў парках і скверах, дзе ветэранаў, іх унукаў, усіх жадаючых частавалі салдацкай кашай з палявых кухань, для іх давалі канцэрты лепшыя прафесійныя і самадзейныя творчыя калектывы рэспублікі.

*БЕЛІНФАРМ.*

*Мінск, 9 мая 1994 года. Плошча Перамогі.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Вот так и живем

## ФОНД ОПЛАТЫ ВОЗРОС,

### *но нам от этого не стало лучше*

На оплату труда работников, занятых в народном хозяйстве области (без кооперативов, малых и совместных предприятий), в первом квартале пошло 374,1 миллиарда рублей. Еще 39 миллиардов начислены в виде материальной помощи и социально-трудовых льгот. По сравнению с аналогичным периодом прошлого года фонд оплаты увеличился в 13,4 раза.

Средняя зарплата работников в январе-марте составила 198,3 тысячи рублей, в том числе в марте — 228,7 тысячи и возросла по сравнению с мартом 1993 года в 12,9 раза. Из общей численности работающих у 21 процента ее размер был от одного до трех минимальных зарплат (от 30 до 90 тыс.руб.); 25 — от трех до пяти (от 90 до 150 тысяч); 27 — от пяти до восьми (от 150 до 240 тысяч); 11 — от восьми до десяти минимумов (от 240 до 300 тысяч); 14 — свыше 300 тысяч рублей. Почти 2 процента работников получили заработную плату ниже минимальной. Сюда вошли лица, имеющие неоплачиваемые или частично оплачиваемые отпуска, принятые на работу на неполный рабочий день или неделю, не выполнившие нормы выработки, ученики.

В марте заработная плата рабочих и служащих составила 251,3 тысячи рублей, колхозников — 146,7 тысячи, или 59 процентов ее уровня у рабочих и служащих. Первенствуют по размеру оплаты труда предприятия и организации кредитования и страхования (в марте — 410,1 тыс.руб.), в том числе банковские (437,7 тыс.); промышленности (291,1 тыс), строительства (287,0 тыс.), транспорта (283,8 тыс.), в том числе железнодорожного (394,2 тыс.). Ниже среднеобластного показателя по-прежнему оплата труда работников социального обеспечения (147,0 тыс.руб.), непроизводственных видов бытового обслуживания населения (175,1 тыс.), культуры (180,1 тыс.) и искусства (176,8 тыс.).

Один час рабочего времени в марте оплачивался в размере 1.480 рублей, в том числе у рабочих и служащих — 1.643, колхозников — 926.

*Ольга ПОЗНЯКОВА, начальник отдела облстатуправления.*

## Увага! "Прамая лінія"

*Учора маёмасць была дзяржаўная, а сёння пераходзіць у прыватныя рукі. Многія называюць гэта разбазарваннем народнага багацця. Ці так яно на самай справе?*

*З 1 красавіка пачалася выдача чэкаў "Маёмасць". Што з імі рабіць, куды іх укласці?*

*Нямала пытанняў выклікае ў вас, дарагія чытачы, рэфармаванне нашай эканомікі. Разабрацца ў іх вам дапаможа начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення па раздзяржаўленню і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці* ***Фёдар Анікеевіч МУРАЎЕЎ****. Рэдакцыя* ***17 мая*** *арганізуе з ім "прамую лінію". Звaніце па тэлефонах* ***68-25-57 і 32-50-01*** *з 10 да 13 гадзін.*

*Можаце задаць яму пытанні і да 17 мая, пазваніўшы на працягу дня па тэлефонах* ***68-25-43, 24-35-91, 24-88-28****, ці напісаць у рэдакцыю па адрасу:*

***220013, г. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10-А, рэдакцыя газеты "Мінская праўда", сацыяльна-эканамічны аддзел.***



## Рэха вогненнай бяды

### Паўтарэнне пройдзенага

Амаль два гады таму назад здарыўся пажар у вёсцы Капланцы Бярэзінскага раёна. На месцы сядзібы пенсіянеркі Г.Ф.Яроцкай засталося папялішча. Гэтую «паслугу» сваёй бабулі зрабіў сямігадовы ўнук. Здавалася б, навука на ўсё жыццё. Але прыгрэла веснавое сонца, і новыя клопаты з"явіліся ў гаспадыні. Дарэчы, пасля пажару жанчыне выдзелілі часова падворак у гэтай вёсцы.

У той дзень Г.Ф.Яроцкая прыстасавала ў лазні самагонны апарат. Толькі на некалькі хвілін яна пакінула без нагляду гэты «агрэгат», як раптам суседзі заўважылі полымя над лазняй.

На пытанне работніка пажарнай службы, ад чаго загарэлася лазня, жанчына паведаміла, што для сваіх патрэб вырашыла вырабіць некалькі бутэлек самагону. Апарат паставіла каля ложка, электрычнасці ў памяшканні не было. Між тым самаробны агрэгат мог «нашкодзіць» яшчэ больш. Кропку ў гэтым здарэнні паставяць работнікі міліцыі.

### Не зберaглі "другі хлеб"

У калгасе «Камунар» Крупскага раёна агранамічная служба спадзявалася на тое, што і сёлета, як і ў мінулым годзе, бульбяны палетак зойме лепшыя плошчы. Насенне «другога хлеба» захоўвалася ў бульбасховішчы. Калгаснiцы не паспелі перабраць насенны матэрыял, таму што сюды ў выхадны дзень ускочыў «чырвоны певень». Дзятва з вёскі Каўпаніца задала нялёгкую задачу для кіраўніцтва гаспадаркі. У бліжэйшы час неабходна разабраць галавешкі і ратаваць бульбу, нямала сродкаў трэба знайсці, каб адрамантаваць пабудову. Урон ад пажару склаў каля 10 мільёнаў рублёў.

### Выхапіў з полымя

Выбух прагучаў пад вечар у вёсцы Астраўкі Салігорскага раёна. Пажар узнік у доме пенсіянеркі В.М.Ланцік. Тут жыве і сям"я яе сына. Агонь хутка ахапіў страху. У гэты час бацькі знаходзіліся на агародзе. Мясцовы паштальён Міхаіл Кучынскі ведаў, што ў доме ёсць маленькія дзеці. Рызыкуючы жыццём, ён выратаваў двух хлопчыкаў. Бацькі шчыра дзякавалі яму за самаадданы ўчынак.

Як потым высветлілася, няшчасце адбылося па віне гаспадароў. У доме была пакінута без нагляду ўключаная газавая пліта.

### Засталіся ўспаміны

Дзесяткі юнакоў і дзяўчат закончылі Рымашоўскую васьмігадовую школу Капыльскага раёна. Прайшлі гады, не стала вучняў, і будынак школы прыдбала акцыянернае прадпрыемства «Капыльскае». Але і яно не паспела выкарыстаць памяшканні для сваіх патрэб. «Чырвонага пеўня» ўтаймавалі прафесіяналы пажарнай справы. Не вытрымала школа хрышчэння агнём. А ў вяскоўцаў засталіся толькі ўспаміны аб роднай школе, адкуль дзеці атрымлівалі пуцёўку ў жыццё.

### Стварылі небяспеку

Любіць парадак старшыня калгаса «Дружба» Старадарожскага раёна А.Ф.Ільюшчэня. На апошняй нарадзе ён аб'явіў усім спецыялістам аб правядзенні суботніка не толькі ў памяшканнях, але і на тэрыторыі жывёлагадоўчых ферм. Дружна працавалі жывёлаводы вёскі Паставічы. Але хтосьці запаліў смецце, якое знаходзілася паблізу памяшкання, затым загарэлася мінулагодняя трава ля кароўніка. Неўзабаве агонь перакінуўся на страху будынка. Калгасная пажарная каманда пачала тушыць пажар, а жывёлаводы эвакуіравалі ўвесь дойны статак.

Гэта не адзінкавы прыклад, калі неасцярожнае абыходжанне з агнём стварае небяспеку на жывёлагадоўчых комплексах.

### Падвяла электрычнасць

З раніцы ў вёсцы Яршэвічы Валожынскага раёна не было электрычнасці. У абед у доме загадчыцы фермы калгаса «Чырвоны сцяг» М.М.Вайцаховіч узнікла кароткае замыканне электраправодкі. Гаспадыня заўважыла небяспеку. Яна кінулася за дапамогай да суседа, але той чамусьці не звярнуў увагі на просьбу жанчыны. Маўляў, разбірайся сама. Тым часам агонь уладарыў на гарышчы. Пажарныя адстаялі дом, але яшчэ прыйдзецца шмат працаваць, каб зрабіць тут належны парадак.

### Аварыйная сітуацыя

З кожнай хвілінай вада прыбывала ў памяшканні фабрыкі марожанага г. Барысава. Узнікла пагроза затаплення склада гатовай прадукцыі. Кіраўніцтва прадпрыемства вырашыла звярнуцца за дапамогай да самай аператыўнай службы горада. Пажарныя не падвялі. Нягледзячы на халодную купель, старшы пажарны ваенізаванай часці Валерый Маханаў каля гадзіны ліквідоўваў аварыйную сітуацыю на фабрыцы. /Вада прарвала водаправод пад высокім ціскам/.



*Фёдар САГАНОВІЧ, начальнік аддзялення ўзаемадзеяння з грамадскасцю, процiпажарнай прапаганды і інфармацыйна-аналітычнай работы.*

■ Спажывецкая кааперацыя

# “ГРОШЫ САМ ПЛАЦІЎ НЕМАЛЫЯ...”

***Цяпер на Клеччыне працуюць 147 магазінаў, вялікіх і малых. Яны абслугоўваюць больш за 40 тысяч чалавек. Дзейнічаюць 65 прадпрыемстваў грамадскага харчавання, 14 прыёманарыхтоўчых пунктаў, селькаапнарыхтпром, калгасны і швейныя цэхі. За мінулы год план рознічнага тавараабароту перавыкананы на 518 мільёнаў рублёў.***



Аднак шэраг магазінаў з’яўляюцца стратнымі. З-за высокіх цэн зменшылася рэалізацыя халадзільнікаў, тэлевізараў, веласіпедаў... Знізіліся аб’ёмы продажу рыбных кансерваў, масла, алею, цукру, мукі і іншых тавараў і прадуктаў.

Вядома, кааператары не сядзяць склаўшы рукі. Нягледзячы на разрыў эканамічных сувязей, камерцыйнай службай летась было знойдзена і завезена ў гандлёвую сетку раёна тавараў на суму 6,9 мільярда рублёў. На прылаўках магазінаў стала больш адзення, скуранога абутку, бялізны... Зроблены першыя крокі па расшырэнню вытворчасці тавараў уласнымі сіламі. З ліпеня 1993 года пачаў працаваць швейны цэх на аптова-гандлёвай базе. Тут пастаўлены на паток пашыў пасцельных рэчаў. Тавараў рэалізавана ўжо амаль на 67 мільёнаў рублёў. Месяц назад такі ж цэх пачаў дзейнічаць і ў Сіняўскім сельпо. Акрамя таго, намечана арганізаваць вытворчасць шлакабетонных блокаў і тавараў шырспажыву сіламі будаўнічай брыгады райспажыўсаюза.

Нялёгкі час перажываюць прадпрыемствы грамадскага харчавання. Там-сям закрываюцца сталовыя, бо ў іх мала хто харчуецца. Вопыт, аднак, сведчыць, што калі пашыраць асартымент паўфабрыкатаў, прадукцыі ўласнай вытворчасці, то можна выстаяць. Скажам, у сталовай №2 г. Клецка работнікі самі заклалі з восені на захоўванне бульбу, капусту, агуркі, памідоры, яблыкі, варэнне... Самі вэндзяць мясныя вырабы. Не залежваюцца ў буфеце куры, пельмені, галубцы ўласнай вытворчасці. На жаль, такіх прыкладаў няшмат. У асобных сталовых вельмі вузкі і дарагі асартымент страў. Тут мог “падставіць плячо” падсобны цэх, дзе арганізавана вырошчванне свіней. Праўда, з-за дарагоўлі катлеты і адбіўныя таксама не кожнаму даступныя. Не выкарыстаны яшчэ магчымасці па закупу ў насельніцтва і перапрацоўцы мяса, агародніны, садавіны. Каапнарыхтпром, як нам сказалі, прымае меры, каб сёлета паправіць справы.

Асаблівая ўвага звяртаецца на школьныя сталовыя. Хаця шмат вучняў харчуецца бясплатна, але ў меню мала мясных, рыбных страў. Рэдка калі бывае каша з грэчкі. Праблема няпростая, ды агульнымі намаганнямі яе можна вырашыць.

Праўленне райспажыўсаюза робіць захады па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы. Вядзецца рамонт магазінаў, аснашчэнне іх неабходным абсталяваннем. Часта аказвае дапамогу кааператарам кіраўніцтва гаспадарак. Напрыклад, сіламі калгаса “Чырвоны сцяг” пабудаваны гандлёвы цэнтр у вёсцы Лазавічы. У стадыі завяршэння такі ж аб’ект у вёсцы Зубкі. Пачата будаўніцтва магазіна ў вёсцы Сякерычы. Усяго на ўмацаванне ўласнай базы райспажыўсаюза летась расходавана 47 мільёнаў рублёў капіталаўкладанняў.

Рэзкае падаражанне энерганосьбітаў, аднак, часта садзіць кааператараў “на мель”. Маленькія магазіны ў аддаленых вёсках, якія не прыносяць прыбытку, па законах рынку можна было б закрываць. Але дзе ж тады купіць людзям хлеб, соль, іншыя тавары і прадукты першай неабходнасці? І пакуль што “моцны” магазін “цягне” на сабе слабейшы...

На справаздачнай канферэнцыі райспажыўсаюза былі прааналізаваны вынікі работы за мінулы перыяд.

— Пакуль што ў нас сціплыя здабыткі і складаныя праблемы, — гаворыць старшыня праўлення М.М.Ленкавец. — На жаль, не ўсё залежыць ад кааператараў. Не адпрацавана як след крэдытная сістэма. Пастаўшчыкі тавараў — прадпрыемствы-манапалісты дыктуюць высокія цэны. Ёсць і свае, так сказаць, уласныя “вузлы”. Маю на ўвазе кадры. Хаця большасць з іх — людзі сумленныя, адданыя справе.

Так, рынак дыктуе свае ўмовы: толькі тады можна надзейна весці гандаль, калі людзі будуць адчуваць высокую адказнасць, змогуць хутка прыстасавацца да новых умоў працы. Цяпер у сістэме райспажыўсаюза занята 1.366 чалавек, або на 73 чалавекі меней, чым у 1939 годзе. З цеплынёй гавораць тут пра Вольгу Петрашэвіч, загадчыцу магазіна №32 г. Клецка, Таццяну Іоська — загадчыцу магазіна №34 г. Клецка, Міраславу Крыцкую — загадчыцу магазіна вёскі Лазавічы, Міхаіла Войціка — шафёра аўтабазы, Алега Шыбута — рабочага каўбаснага цэха, Марыю Галуза — нарыхтоўшчыцу Заастравецкага сельпо і многіх іншых.

На думку М.М.Ленкаўца, трэба яшчэ шмат папрацаваць праўленню райспажыўсаюза з кадрамі прадаўцоў, каб пазбегнуць выпадкаў нядобрасумленнасці, ашуканства пакупнікоў, прыхоўвання тавараў. Кожнае такое “ЧП” абмяркоўваецца ў калектыве, кожны вінаваты нясе адказнасць, і гэта павінна быць урокам для іншых, хто хоча “пагрэць рукі”.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*



**На здымках:** сакратар старшыні райспажыўсаюза Соф'я **Якубчык;** загадчыца магазіна № 31 «Прадукты» г.Клецка Аліна **Печурэнка** абслугоўвае пакупнікоў; у цэху па пашыву пасцельных рэчаў — намеснік дырэктара аптовай базы Ніна **Скрыба** і швачка Таццяна **Валасевіч** дэманструюць гатовую прадукцыю.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## Весткі з Салігорска

### ШАХЦЁРЫ РОБЯЦЬ... МЭБЛЮ

Вытворчыя магутнасці самага маладога ў «Беларуськаліі» Чацвёртага рудніка — 7 мільёнаў тон руды ў год. З-за высокага кошту мінеральных угнаенняў попыт на іх у апошні час значна скараціўся, і цяпер для выканання гадавой праграмы рудніку дастаткова здабыць усяго 3,5 мільёна тон руды. Выходзіць, трэба скарачаць работнікаў. І нямала.

Кіраўніцтва рудніка спрабуе вывесці «лішніх» людзей з забояў і ў той жа час трымаць іх «пад рукой», занятыўшы карыснай справай. Дзесяткі ўчарашніх гарнякоў прайшлі пераабучэнне, сталі мулярамі, страхарамі. Частка калійшчыкаў можа знайсці работу ў цэху па вытворчасці мэблі, які пачаў дзейнічаць на рудаўпраўленні. Кухонныя гарнітуры, якія там вырабляюцца, каштуюць не адзін мільён «зайчыкаў», але, як сведчаць спецыялісты, вартыя гэтай цаны...

Усё ж найбольш вопытныя гарнякі, хаця і пакідаюць сільвінітавыя забоі, знаходзяць прымяненне сваім здольнасцям пад зямлёй. На 36 метраў ніжэй першага сільвінітавага пласта залягае шасціметровы слой кухоннай солі. Запасы якой — мільёны тон, а якасць толькі на 0,6 працэнта не дацягвае да вышэйшага гатунку. Шахцёры камбайнамі пачынаюць здабычу гэтага каштоўнага прадукту. Для выдачы яго на-гара выдзяляецца асобны капёр..

### «ТРЫЯДА-С» — ПЕНСІЯНЕРАМ

Не сакрэт, што свае гандлёвыя кропкі прадпрымальнікі імкнуцца размясціць на найбольш ажыўленых гарадскіх вуліцах. А кіраўнікі вытворча-камерцыйнага таварыства «Трыяда-С» свой магазінчык адкрылі за дзесяць кіламетраў ад Салігорска, сярод лясоў і палёў. Справа ў тым, што ў гэтых мясцінах раскінуліся домікі садоўніцкага таварыства «Гарняк-2", дзе працуюць у асноўным пенсіянеры. Ім, вядома, не надта зручна цягаць з сабою хлеб, малако. Вось »Трыяда-С" і ўзялася забяспечваць членаў таварыства гэтымі і некаторымі іншымі прадуктамі.

— Прычым прадаюць іх нам па той жа цане, што і ў гарадскіх магазінах, — расказвае кіраўнік «Гарняка-2" І.М.Жарнакоў. — А яшчэ нам непасрэдна на месцы прадаюцца будаўнічыя матэрыялы, што вельмі зручна. Не дзіўна, што ў наш магазін часта прыходзяць людзі і з суседніх таварыстваў »Будаўнік", «Прагрэс», «Памесце».

Які ж сэнс везці з горада прадукты і без усякіх нацэнак прадаваць дачнікам?

— Мы проста стараемся хоць нечым дапамагчы пенсіянерам, — адказвае кіраўнік «Трыяды-С» І.У.Цукроў. — Гэта, вядома, не значыць, што нашы людзі сабе ў страты ездзяць за дзесятак кіламетраў. Свае расходы мы імкнёмся кампенсаваць за кошт рэалізацыі іншых тавараў, за якія сёйтой не супраць і пераплаціць.

### МАРКІ ДЛЯ ЦАРКВЫ

У шахцёрскім горадзе будзе ўзводзіцца Праваслаўны духоўны комплекс. Аднымі з першых сродкі на яго будаўніцтва ўнеслі баварскія немцы. Да іх у госці ездзілі пеўчыя Свята-Пакроўскага храма, які знаходзіцца ў прыгараднай вёсцы Чыжэвічы.

Салігорскія пеўчыя і музыканты пакарылі немцаў сваім майстэрствам. Асабліва рэгент царкоўнага хору Марыя Розава. Яна прафесійна дырыжыравала нямецкім аркестрам, на высокім узроўні выканала старадаўнія рускія рамансы. Шчырыя словы падзякі атрымала і піяністка Вольга Прахаровіч, якая выконвала творы Бетховена, Шапэна, Шуберта.

Па просьбе баварцаў протаіерэй Мікалай Розаў адслужыў некалькі літургій. Ён жа ад усёй душы дзякаваў немцам, якія сабралі пэўную суму марак для ўзвядзення праваслаўнага храма ў беларускім горадзе.

### КАЛГАСНАЯ КАЎБАСА

Праўленне калгаса «Бальшавік» адкрывае ў Салігорску магазін «Сельгаспрадукты».

Плануецца, што восенню ў ім будзе дастаткова агародніны, бульбы, садавіны. Усё ж галоўныя спадзяванні калгаснікі ўскладаюць на рэалізацыю свініны. У «Бальшавіку» — магутны комплекс, дзе ўтрымліваецца каля дзесяці тысяч галоў.

— Наш цэх штодзень выраблае да паўтоны каўбас, якія карыстаюцца вялікім попытам у вяскоўцаў, гараджан, — расказвае старшыня калгаса А.В.Чалдышкін. — Будзем рэалізоўваць і свініну. Самі. Бо цяпер да нашай закупачнай цаны работнікі гандлю накручваюць амаль трэць яе на сваю карысць. Дзе справядлівасць? Гандлёвая нацэнка ў нас будзе значна меншая, выгадна будзе і нам, і пакупнікам. Да таго ж, мы адразу атрымаем наяўныя грошы, якія тут жа можна будзе пускаць у абарот.

Гэта ўжо не першы выпадак процідзеяння манаполіі гандлёва-вытворчага прадпрыемства «Салігорскгандаль» на рэалізацыю прадуктаў у горадзе. Свае гандлёвыя кропкі тут маюць калгас «Свабода», птушкафабрыка, райспажыўсаюз. Салігорцы гэтаму толькі радуюцца: канкурэнцыя моцна б"е па сквапных руках.

### КАЛАРЫТНЫ «КАЛАРЫТ»

Прадстаўнічая камісія музыказнаўцаў з Мінска слухала песні ў выкананні мясцовага жаночага вакальнага ансамбля «Каларыт», які створаны пры Палацы культуры гарнякоў. Сталічных гасцей літаральна пакарыла майстэрства жанчын. І яны тут жа, на месцы, вырашылі прысвоіць «Каларыту» званне народнага.

У ансамблі — 11 жанчын, якія працуюць у розных арганізацыях, установах. Зразумела, ні ў каго з іх няма музычнай адукацыі. Гэты недахоп кампенсавала іх любоў да народнай песні. Плюс высокае прафесійнае майстэрства кіраўніка ансамбля Таццяны Якунінай, якая ў свой час закончыла інстытут культуры.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ Наболело

# “МАЛЬЧИКИ” С КАЛЬКУЛЯТОРАМИ, А “ДЯДИ”...

Вот и свершилась у нас с глобальным размахом научно-техническая революция. Самая читающая страна стала, наконец, самой считающей. Сейчас, пожалуй, нет семьи, которая не пользовалась бы калькулятором, а то и компьютером. Подсчитывают и раскладывают семейный бюджет, проделывают всякие прочие математические и «технические» хозяйственно-коммерческие манипуляции.

Ну а что касается новоиспеченных бизнесменов, то у них эта чудо-техника, конечно, вместе с денежной наличностью, чуть ли не все карманы в самых разных местах оттопыривает. Как у виртуозов-пианистов, бегают пальцы «мальчиков»-коммерсантов по кнопкам и клавишам калькуляторов, рождая коммерческие мелодии. Коробка спичек не приобретут, не подсчитав предварительно «навар».

Считают в электричках и поездах дальнего следования, в метро и троллейбусах, на базах и в магазинах, на толкучках и в банках, в людных местах... Знакомый рассказал мне, что один нувориш, начитавшись до одури так называемой литпродукции «дайджеста», решил с подружкой «освежиться» в оперном. Так, представляете, и там, в пятом престижном ряду, предпочел «волшебству сценического действа» калькулирование очередных коммерческих комбинаций.

Да, вот что значит рынок и капитализм, хоть и дикий, вот что значит бизнес — пусть и низменно-спекулятивный! Словно дурманящий наркотик, входят они своей «сладкой» отравой во все слои общества, во все поры нашего бытия. Нет, не все здесь в равном положении, потому что одни грабят, в буквальном смысле, других. И тех, кто грабит, — печально, но факт! — становится все больше и больше. Уж не грянет ли у нас, первых, — ведь мы во всем всегда первые! — катаклизм, когда некого станет объегоривать?!

Помню, когда-то, мягко говоря, не принято было представителям сильного пола занимать места за прилавками, у лотков, в общепите. К таким относились с улыбкой, а чаще с презрением. Удел настоящих мужчин — военная служба, труд в шахте и на машинах, в поле, романтика дальних дорог и новостроек, научного поиска, и, как вершина мужества и героизма, — освоение космоса. Перед такими преклонялись, таких восторженно любили девушки. В прославленных людей играла во дворах детвора. А вот что-то не примечаю, чтобы играли в бизнесменов-коммерсантов, банкиров и спекулянтов. Может, правда, и это придет, когда мы еще кое-куда уйдем, а вернее, дойдем...

А пока, хотя все больше и больше считаем, но меньше и меньше производим. Считаем марочки и доллары, «российские», их курс, как и где, на чем можно выгодно «наварить». Высчитываем выгоды рублевой зоны. Уповаем, надеемся. И в то же время сообщения белорусского Госкомстата далеко не оптимистичны. Национальный доход за два месяца с.г. в сравнении с соответствующим периодом прошлого упал на 33 процента, а объем промышленного производства — на 36,5 процента. Обвальный спад наблюдается во всех отраслях, но особенно в производстве товаров народного потребления и продуктов питания.

Считаем дальше. Выпуск алкогольных напитков составил аж 108,5 процента. Не потому ли и цены подняли буквально за последние недели без малого в два раза? А за компанию — не только на это... Как говорится, нащупали «спасательный круг», вот и тянут его на себя, забывая нас, простых смертных.

А было бы куда полезнее, если б и они, эти «госдяди», подобно нуворишам-бизнесменам, подобно «мальчикам» с калькуляторами, научились как следует считать, но не для личной выгоды, а с пользой для людей, отказались тянуть на себя «спасательный круг». Тогда бы, наверное, не было ни спецлимузинов со спутниковой связью, ни игр с перестройкой министерств и ведомств, ни еще многого непонятного, что очищает и без того тощий народный карман

*Олег ФОМЧЕНКО.*

■ Канфліктная сітуацыя

**Незадаволенасць і недавер у гэтым калектыве пануюць не першы год. Прычына вытворчага разладу— лес, на які пакуль багатая наша старонка. Дакладней — збыт лесапрадукцыі.**

# ЗАКУЛІСНАЕ ЖЫЦЦЁ,

## або ЧАГО ДАБІВАЮЦЦА РАБОЧЫЯ ФІЛІЯЛА СУМЕСНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА

Мецъ справу з каштоўнай сыравінай выгадна. На прыбытак разлічвалі і заснавальнікі сумеснай вытворчасці «Мінскі мэблевы цэнтр», якімі выступілі Мінскае вытворчае лесагаспадарчае аб"яднанне, канцэрн «Прамысловец» , Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый і германская фірма «Грэкон». У пасёлку Крупскі зараз дзейнічае філіял СП, дзе займаюцца распілоўваннем драўніны. Прадукцыя лесапільнага цэха ідзе ў Маладзечна, на завод металаканструкцый, дзе ўстаноўлена нямецкае абсталяванне. Для закупкі сучасных дрэваапрацоўчых станкоў нямецкі бок прадаставіў крэдыт на 10 мільёнаў 700 тысяч марак на сем гадоў. Прычым доля статутнага капіталу фірмы «Грэкон» складае 31 працэнт. Калі ў кастрычніку 1989 года было зарэгістравана гэтае сумеснае прадпрыемства, немцы ўнеслі наяўнымі 50 тысяч марак. Акрамя таго, распрацоўка тэхналогіі, падбор і кампаноўка абсталявання, навучанне персаналу на першым часе ажыццяўлялася спецыялістамі «Грэкона». Замежныя кампаньёны не дарэмна ўкладвалі свой капітал. Узамен яны атрымліваюць мэблевыя шчыты ці піламатэрыялы.

Сыравіна / у асноўным хвоя/ пастаўляецца на лесапільню ў Крупскі лясгасамі вобласці. Штомесяц філіял выраблае 450 кубаметраў драўніны. Аднак яго магутнасці поўнасцю не выкарыстоўваюцца. Пяць піларам рэдка загружаюцца адначасова: няма што пілаваць.

— Галоўнае для нас цяпер— рэалізаваць прадукцыю, якой назбіралася шмат. Дошкі даўно ляжаць пад адкрытым небам, то сохнуць, то мокнуць. Гінуць мільёны рублёў, прападае яўны прыбытак. Неабходна тэрмінова пераацэньваць тавар і хутчэй яго збываць,— уступае ў размову дырэктар філіяла Уладзімір Кохан.

Не трэба быць спецыялістам, каб заўважыць: гэтыя дошкі дрэннай якасці. Таму і цяжка знайсці на іх пакупніка. А вось прадукцыя першага ці другога гатункаў не залежваецца. Падрыхтаваная для адпраўкі ў Германію драўніна акуратна апрацавана і складзена — адно да аднаго. Што будзе мецъ ад замежных паставак калектыў, рабочыя не ведаюць. Аднак упэўнены, што абавязкова застануцца абдзеленымі.

«А пагаворвалі калісьці аб нейкай частцы заробленай валюты...», — уздыхае рабочы Васіль Драздоў. «Як бы праверыць, ці адкрыты ў кіраўніцтва валютны рахунак. Можа, і атрымліваюць без нашага ведама нямецкія маркі»,— падхапіў вадзіцель Сцяпан Храмчанка.

Дырэкцыя прадпрыемства ў сваю чаргу не жадае трымаць справаздачу перад працоўным калектывам. Маўляў, ваша справа пілаваць, грузіць, вазіць, наша — размяркоўваць прадукцыю. Такая ізаляцыя інтарэсаў рабочых выклікала напружаную канфліктную сітуацыю, нармальна працаваць ужо немагчыма. Прэтэнзіі, папрокі, скаргі. Звычайна ў такіх выпадках спачатку звяртаюцца ў прафсаюз, у канфліктную камісію. Іх жа на прадпрыемстве няма. Таму і звяртаюцца рабочыя вышэй. Апелююць да раённага аддзялення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, абласной газеты, дэпутата Вярхоўнага Савета Аляксандра Лукашэнкі. Дарэчы, апошняму быў накіраваны ліст, які падпісалі 14 чалавек. Так і не дачакаўшыся адказу, рабочыя спадзяюцца на дапамогу рэдакцыі. 22 сакавіка «Мінская праўда» прадаставіла магчымасць сваім чытачам гаварыць з начальнікам упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома генерал-маёрам міліцыі Іванам Карповічам, з якім па «прамой лініі» звязаліся таксама і рабочыя крупскага прадпрыемства. Павілася яшчэ адна надзея. на зацікаўлены ўдзел уплывовых асоб.

Чым жа канкрэтна абураюцца рабочыя лесапільнага цэха? Вось радкі з калектыўнага ліста: «Можа, вас зацікавіць, як у нас ідзе крадзеж народнага дабра? Мы звярталіся ў райаддзел міліцыі, аднак справу «замялі". Няўжо нікога не знойдзецца, каб спыніць гэтых хапуг?" Далей прыводзяцца факты, называюцца імёны, указваюцца пасады. Гаворыцца таксама ў лісце , што з лесу выпілоўваецца «патрэбны» матэрыял, які потым знікае «налева», мінаючы бухгалтэрыю, а значыць, і кішэні рабочых. Ці пры продажы кааператарам дошак / маецца на ўвазе кааператыў «Шчаслівы выпадак»/ заведама заніжаецца іх сапраўдны гатунак. Якасная прадукцыя рэалізуецца амаль дарма.

Такім чынам, прад"яўляюцца сур"ёзныя абвінавачванні ў адрас кіраўніцтва крупскага філіяла.

Начальнік раённага аддзялення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Фёдар Толкач спецыяльна не займаўся разглядам пісьмаў, што прыходзілі ад рабочых, а толькі азнаёміўся з матэрыяламі рэвізійнай камісіі Мінскага лесагаспадарчага аб"яднання. Год назад яна выявіла недастачу піламатэрыялаў і лішак круглага лесу. Інакш кажучы, іх выраблена /па справаздачнасці/ значна больш, чым мелася сыравіны. За дрэнны ўлік выхаду гатовай прадукцыі быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці загадчык вытворчасці Юрый Буліч. І яго « аштрафавалі » на 25 тысяч рублёў. Астатнюю недастачу аднеслі на кошт прыпісак рабочых пры распілоўцы / з іх не ўтрымана ні рубля /.

Рабочыя не згадзіліся з гэтымі вывадамі. Сцвярджаюць, што не займаліся яны прыпіскамі, і працягваюць шукаць праўды. Фёдар Толкач на лісты з Крупскага ўжо не рэагаваў. Лічыў, што ўсе яны напісаны адным чалавекам, прычым ананімам. Аднак гэтым « ананімам » аказаліся 14 чалавек, якія не адмовіліся ад свайго подпісу і ахвотна сустрэліся з карэспандэнтам.

Як ставіцца да канфлікту на крупскай вытворчасці генеральны дырэктар СП? Барыс Мядзведзеў не бачыць тут ніякага крыміналу, паколькі рэвізіі не выявілі якіхсьці фактаў разбазарвання драўніны. Згодзен і з тым, што не поўнасцю задавальняюцца сацыяльныя патрэбы рабочых. Але ж магчымасці для гэтага ствараюцца ўласнымі рукамі, самім калектывам.

На сённяшні дзень ёсць удосталь лесаматэрыялаў. Да таго ж расцэнкі вышэйшыя, чым на іншых дрэваапрацоўчых прадпрыемствах вобласці, напрыклад, Лагойскім камбінаце. Зарабляйце, калі ласка, сабе на даброты.

— Так, становішча ў Крупскім неабходна выпраўляць, — падсумоўвае Б. Мядзведзеў.— Узмоцнім кантроль за перапрацоўкай драўніны, будзем больш патрабавальна ставіцца да працоўнай дысцыпліны. Ці варта арганізаваць прафсаюз, які жадаюць стварыць рабочыя? Не думаю, што ён чымсьці дапаможа ім.

А пайсці насустрач пажаданням рабочых усё ж неабходна. Згодна з Кодэксам законаў аб працы /артыкул 238/, калектыў прадпрыемства мае права ствараць орган, які прадстаўляе інтарэсы работнікаў пры заключэнні, выкананні і скасаванні калектыўнага дагавора ў выпадку адсутнасці на прадпрыемстве прафсаюза / ні таго, ні другога ў філіяле няма /. А таксама — удзельнічаць у распрацоўцы і прыняцці рашэнняў па сацыяльна-эканамічных пытаннях дзейнасці прадпрыемства; вызначаць велічыню і парадак размеркавання чыстага прыбытку. Працоўны калектыў мае права атрымліваць, а наймальнік абавязаны прадастаўляць яму інфармацыю аб вытворчым і сацыяльным развіцці прадпрыемства, увядзенні новай і змяненні дзеючай арганізацыі працы, іншых пытаннях, якія датычацца калектыўных інтарэсаў работнікаў... Вось ад чаго адлучаны рабочыя Крупскага філіяла СП «Мінскі мэблевы цэнтр». Яны

дабіваюцца не толькі выгод, а жадаюць, каб з іх думкамі лічыліся, не грэбавалі іх інтарэсамі. Закулісная жыццё, нават прыстойнае, нараджае сумненні і недавер.

Вызначыць вінаватых і тых, хто мае рацыю, — не мэта карэспандэнта. Зразумела адно. У даным выпадку чалавечы фактар у арганізатараў вытворчасці адышоў на другі план, а членам калектыву шукаць абароны сваіх інтарэсаў няма дзе. Хіба што пісаць у розныя інстанцыі.

*Наталля ШМІДТ.*
*Крупскі раён.*

## ■ Да 90-годдзя з дня нараджэння П.Труса

*/Заканчэнне. Пачатак у № 47/.*

У ЛІТАРАТУРНЫМ і мастацкім асяроддзі тых часоў існавала "народніцкая" плынь. Усё, што рабілі яе прадстаўнікі, звязвалася з тым, як успрыме іх працу народ. Для П.Труса крытэрыем ацэнкі твораў былі таксама адносіны да іх з боку сялянскага асяроддзя.

П.Трус ведаў пра спрадвечнае шанаванне народам прыгажосці складнага слова. Таму ён сваю рыфму накіроўваў на патрэбу дня. Вершаваныя фельетоны паэта, большай часткай напісаныя на матыў вядомых народных мелодый, літаральна заваёўвалі масы. І ў горадзе і на вёсцы звінела яго песенька "Журавель". На матыў вяснянак і жартаўлівых песень паэт пісаў кароценькія тэкстоўкі, і яны станавіліся зброяй у барацьбе з цемраю і бескультур"ем. Тэматыка іх у некаторай ступені аднастайная, але па зместу сугучная часу:

*Надаела мне трохполка,*
*Не здаволен працаю.*
*Дык заводзь, браток Міколка,*
*Калектывізацыю.*

Вершы-агіткі "Лячыся ў доктара, а не ў шаптухі", "Камітэты дапамогі ставяць беднага на ногі", "Вось калі Сымон-лайдак ў самагонцы пачуў смак" рабілі сваю справу.

Складваліся новыя формы грамадскага жыцця: клубы, дзіцячыя сады, самадзейнасць. Паўлюк піша пра іх, пра трактар, радыёпрыёмнік, пра газеты, часопісы, выступае супраць цемрашальства, забабонаў, п"янства:

*Мы спарахнелае палім,*
*З ім — быльняговыя межы.*

Актыўная дзейнасць П.Труса працягвалася і на радзіме ў вёсцы Нізок у час канікулаў. Ён прыязджаў сюды нярэдка з М.Лужаніным, П.Глебкам і адразу ж браўся за работу. Ён намерваўся ў адну з вакацый не дапусціць гібелі мясцовай ячэйкі, закончыць легенду "Лірнік" і паэму "Развітанне". Планаваў зрабіць даклады, ладзіць культвеча, суд над камсамольцам-п"яніцам (у ролі пракурора). Трэба было выпусціць газету, займацца з дзецьмі, падрыхтаваць праект паляпшэння школы.

20-я гады XX ст. для беларускай літаратуры з"явіліся такім трыумфальным узлётам, якога яна да гэтага ніколі не ведала. Непадобны на ўсіх, са сваім уласным голасам, са сваёй лірай-песняй вылучаўся П.Трус. Многія вучылі ўсе яго вершы, многія пісалі "пад Труса". Калі ён вучыўся ў Белпедтэхнікуме, яго творчасць ужо ўваходзіла ў праграму навучання.

Каб зразумець феномен П.Труса, трэба добра ўяўляць тыя гады. Узлёт паэта прыпаў на перыяд выпакутаванага народам адраджэння, пераўтварэння беларускай зямлі, у першую чаргу — вёскі. Скончыліся самыя разбуральныя і трагічныя войны, дзве акупацыі:

*Помняцца дні завірухі,*
*Ой, былі цяжкія дні!*
*Край навальніцаю дзьмухаў,*
*Край патнаў у агні.*

Паэт добра адчувае пульс жыцця, яго перспектыву:

*І на вогнішчы буры віхрыстай,*
*На магіле мінуўшчыны дзікай,*
*Беларусь, над табой агнявіста*
*Новай квадры настаў маладзік!*

Гэта былі гімны перамозе, змаганню. Паэт і сам нёс пераўтварэнне. Светлыя фарбы, урачыста-прыўзнятыя інтанацыі, узнёслая настроенасць, імкненне ў "сусвет вольна-новы" добра спалучаюцца з жаданнем паэта паскорыць рытм жыцця, перамагчы старое, кепскае:

*Чую песні стыхіі-разводдзя,*
*Не стрымаць твае вольнае плыні!*
*Упусціла старое паводдзе,*
*Калі вір маладога нахлынуў.*

"Ніхто з паэтаў не ўславіў так шчыра беларускай вёскі, як Паўлюк Трус у сваіх простых і ў той жа час музычных вершах, блізкіх па духу да народнай творчасці", — пісаў П.Глебка.

Паэт Паўлюк Трус бачыць вясковае жыццё ў ідылічных танах. Шэпты жытнёвага мора, звон сталёвых сярпоў у руках жнеек-красунь, лёскат і скрып калёс у сасонніку — вось тая вясковая музыка, ціхія мелодыі якой гучаць несупынна ў лірычных вершах песняра і так кранаюць сэрца.

Паэт застаецца перш за ўсё лірыкам. Хвалююць юнацкай шчырасцю лірычныя вершы "Не заспі, пабудзі мяне рана...", "Сцежкі", "Брату", "Ліст да сястры". Прыцягваюць інтымна-лірычныя вершы "Я спаткаўся з табою", "Навошта сэрца я параніў?", "Скажы мне, любая, скажы...", "З студэнцкага дзённіка", "Дзяўчыне", "Нашто мне смех". Гэта ўсё ўсхваляваныя апавяданні пра каханне, якое запаўняе ўвесь свет.

Спатканне з любай дзяўчынай — абавязкова ля ваколіцы, дзе "цалуюцца явар з калінаю", у жытнёвым полі, пад гукі пявучай жалейкі. Радасць і смутак, асалода падзеленага пачуцця і горыч разлукі, думкі аб любай дзяўчыне, якая далёка —

*Кужаль дапрадае*
*Ўвечар пры лучыне, —*

вось тыя непрыдуманыя жыццёвыя матывы, з якіх складаецца празрыста-ажурны строй лірыкі паэта.

Лірычны пейзаж — гэта звычайна паэтычны ўступ да твора. У ім вострае адчуванне настрою, шчасця жыцця. Светлая метафарычнасць, яркая каларытнасць, рытміка ў паэта блізкія да народных. Ён, як і народ, карыстаецца пастаяннымі эпітэтамі, паралелізмамі, адмоўнымі параўнаннямі, паўторамі.

ГАЛОЎНАЯ крыніца творчасці П.Труса — сялянскі фальклор. Для яго характэрнае асаблівае і выключнае замілаванне фальклорнай сялянскай песняй. Яна заўсёды гучала ў сэрцы паэта:

*Жыццё у песні*
*ад калыскі.*
*Пакуль гараць ў вачах агні,*
*пяеш аб родным,*
*сэрцу блізкім,*
*а сэрца звон*
*звініць,*
*звініць...*

У 1925 годзе ў бібліятэчцы "Маладняка" тыражом 1,5 тыс. асобнікаў выйшаў першы зборнік паэзіі П.Труса пад назвай "Вершы". Эстэтычна бездакорны, ён адкрываўся фотаздымкам 21-гадовага паэта, які, здаецца, нідзе больш не паўтараўся і трошкі адрозніваецца ад стэрэатыпнага ўяўлення аб знешнасці П.Труса. Мы яго змяшчаем нягледзячы на невысокую якасць рэпрадукцыі.

Ёсць даныя, што ў выданні зборніка чынны ўдзел прыняў Ц.Гартны, які прыхільна ставіўся да таленту П.Труса і неаднаразова запрашаў яго гасцяваць да сябе на кватэру. Чатырнаццаць вершаў згрупаваны па раздзелах "Кастрычнік", "Першае каханне" і "Харавство прыроды".

У 1927 годзе ў Дзяржвыдавецтве БССР выходзіць другі зборнік вершаў П.Труса пад назвай "Ветры буйныя". Вокладка кніжкі была выканана вядомым у свой час мастаком А.Ахола-Вало. Зборнік змяшчаў ужо 42 вершы. Пасля выхаду другой кніжкі імя паэта становіцца вядомым на Беларусі.

Паўлюк Трус стараўся быць у гушчыні жыцця. У гэтым яму добра дапамагала супрацоўніцтва ў газетах. Праз іх ён збліжаўся з людзьмі працы, адгукаўся сваімі творамі на запатрабаванні жыцця. У паэта пасля заканчэння педтэхнікума была магчымасць прадоўжыць вучобу ў Белдзяржуніверсітэце. Але, як ён казаў, за плячыма ў яго і так ужо 12 гадоў заняткаў. Хацелася паспрабаваць сябе ў практычнай рабоце. І ён едзе ў Гомель на працу ў газету "Полесская Правда". Газета ў той час пераналаджвалася на беларускую мову, і работы ў сувязі з гэтым выпускніку хапала. Аднак ён паспявае сістэматычна сустракацца з чытачамі, карыстаючыся ў іх нязменным поспехам. Дапамагае пачынаючым паэтам.

ПАЭТЫЧНЫ арсенал мастака слова пашыраецца. Ён, улюбёны ў новую, маладую Беларусь, свае пачуцці да яе выказвае выразна і шчыра. Усё больш увагі аддае тэме рэвалюцыйнага пераўтварэння, выхаваўчай рабоце, абароне Радзімы.

Паэмы — важная старонка творчасці паэта. Усяго ён стварыў восем паэм, з іх тры засталіся незакончаныя. Найбольш значна праявіўся талент паэта ў паэме "Сірата Алеся". Яна пісалася з 1925 года і засталася незавершанай. Паэма расказвае пра вясковую дзяўчыну Алесю, выхаваную ў горы і цемры. Паступова ў новых умовах яна пачынае асэнсоўваць сваю новую ролю, месца ў жыцці. Але не ўсё так проста. Ёсць згубы. Паэму пранізвае смутак аб дарагім. Аднак туга паэмы нераўназначная адчаю. У ёй прарываецца мужны кліч, вера ў перамогу жыцця. Паэтычную структуру паэмы ўзбагачаюць лірычныя ўстаўкі-песні. Аўтар прызнаваў, што тут на яго зрабілі ўплыў Т.Шаўчэнка і А.Пушкін. Тое значэнне, якое П.Трус надаваў паэме "Алеся", дае права меркаваць, што праз абагульнены вобраз Алесі паэт узнімаўся да выяўлення вобраза і лёсу Беларусі.

У свой час вялікай папулярнасцю карысталася створаная ў канцы 1927 года адна з лепшых паэм "Чырвоныя ружы". Яна вызначыла паварот у творчасці паэта, ён нават рыхтаваў трэці зборнік паэзіі пад такой жа назвай.

Паэмы "Астрожнік" і "Юны змаганец" доўга не сыходзілі са старонак школьных чытанак.

Галоўным творчым здабыткам П.Труса стала паэма "Дзесяты падмурак", прысвечаная 10-годдзю рэспублікі. Лірычныя адступленні і эмацыянальная накіраванасць асобных раздзелаў робяць паэму натхнёнай песняй, якая гучыць як летапіс вялікага пераўтварэння Беларусі з аграрнай, адсталай у краіну "дымных фабрык і машын". Пра яе задуму паэт пісаў тэзісна: "Да 10-годдзя Беларусі. Верш у форме сну. Быццам бачу сон. У гэтым сне трэба даць мінулае Беларусі. Паказаць праз сон рэвалюцыю, акупацыю. Пасля ўсяго гэтага ўзыходзіць сонца, улівае мне ў душу гаючы бальзам, так як у сне адчуваю сябе таксама хворым, я прачынаюся. Прачынаюся, і перада мною ўрачыстасці жыцця і рэвалюцыі, наша будаўніцтва. Разам з апісаннем сучаснасці я ўспамінаю зарубежных брацціяў".

Найбольш значныя творы ствараліся ці завяршаліся, калі П.Трус пасля работы ў Гомелі, ужо будучы вядомым паэтам, журналістам і грамадскім дзеячам, паступіў на другі курс літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Творчасць П.Труса ярка спалучалася з яго асобай. Адзінай, непаўторнай і каларытнай. Лепей за іншых пра яе, здаецца, сказаў М.Хведаровіч:

"Невысокага росту, каржакаваты, з яснымі блакітнымі вачамі, з густымі пасмамі кучаравых валасоў ён нагадваў вобраз коласаўскіх палешукоў, трапных на гумар, вясёлых на ігрышчах і нязломных, як той дуб, перад нягодамі ў жыцці. Акрамя гэтых своеасаблівых якасцей, ён вызначаўся сярод нас багаццем светаадчування, прыгожымі пачуццямі, пявучым голасам, звонкім смехам. Ён умеў захапляцца — здольнасць, якою валодае не кожны з паэтаў. Ён захапляўся сонечнымі водбліскамі, называючы іх усмешкай: вятры яго плачуць у дуброве параненай, малатарня звоніць гулкім рогатам з грудзей; яго бор смуглабровы, а цені ад бору купаюцца ў даліне і ў лузе плаваюць абветраным чаўном. Жытнёвыя палі і квяцістыя шаўковыя сенажаці, смалістыя сосны і развесістыя явары навяваюць халодны смутак пры расставаннях і вялікую светлую радасць пры сустрэчах. Кожная новая з'ява ў нашым жыцці знаходзіла сабе месца ў яго шырокай і адкрытай душы".

Прыродная далікатнасць таксама дапаўняла жывы вобраз П.Труса. Як у роднай вёсцы, так і ў калідоры тэхнікума ніхто не мінаў Паўлюка, не павітаўшыся, не загаварыўшы, не прапанаваўшы, скажам, папяросы ці — гэта часцей бывала — не пачаставаўшыся з ягонага пачка. Яго любоў да людзей выклікала ў іх такое ж самае пачуццё.

П.Трус мог і ўмеў зачароўваць сваёй прастатой і шчырасцю, задорным смехам і глыбокай, ад душы, радасцю, бескарыслівай і па-дзіцячаму чыстай дружбай, пашанай і павагай да старэйшых, незвычайнай працавітасцю.

Сучаснікі адзначалі ва ўспамінах весялосць, расцісты рогат, гумар (часам па-вясковаму грубы) гэтага плячыстага хлопца. Слухаючы каго-небудзь, П.Трус падрагатваў, "цёхкаў", як ахрысціў гэты смех К.Чорны.

Хадзіў ён звычайна ў скураной тужурцы, вышыванай сарочцы, падпярэзанай саматканым поясам з тоўстымі кутасамі. Зімой апранаў "студэнцкую адзежу" — жоўты паўкажушак, шапку са скураным акалышам. Часам з'яўляўся ў аксамітавай карычневай талстоўцы і галіфэ. Пазней насіў светла-шэры касцюм, пад якім красавалася белая кашуля, зноў жа вышываная беларускім арнаментам. Нацыянальная кашуля была заўсёды прадметам яго асаблівых клопатаў, увагі і гонару.

Саматканы беларускі паясок з кімаўскім значком на яго левым канцы стаў потым эмблемай часопіса "Маладняк".

ДА ВЫДАННЯ вершаў П.Трус знаёміў з імі добрую сотню чалавек. І кожны верш сустракаўся з радасцю і здзіўленнем ад свежасці гэтага непасрэднага таленту. Часам здавалася, што ўвесь паэт — адна пявучая стыхія.

П.Трус дэкламаваў вершы задушэўна, нібы з кім размаўляў. Чытаў разважліва, каб кожнае слова даходзіла да чытачоў. Інтанацыйна асэнсоўваліся не толькі словы, гук, але і паўзы. Паўлюк удзяляў больш увагі лірычнасці, роздуму, што характэрна было і для Багдановічавай паэзіі.

Пры сустрэчах, выходзячы да чытачоў, П.Трус расшпільваў каўнер, узмахваў цёмна-русым чубам, у сініх вачах загараліся гарэзлівыя іскрынкі — пачынаўся цуд далучэння да высокай паэзіі. Голас у П.Труса быў звонкі, ад яго павявала нейкім вясновым водарам. "Р" ён вымаўляў трохі картава, што рабіла чытанне яшчэ больш цікавым.

П.Трус ніколі не быў задаволены сваімі творамі. Ён уносіў папраўкі нават тады, калі вершы былі ўжо надрукаваны. Мала каму вядома, што ў апошні час ён спрабаваў сябе ў прозе.

Жыццё П.Труса не вымяраецца пражытым часам. Яно заключаецца ў тых мастацкіх каштоўнасцях, што засталіся ад яго бунтоўнага творчага жыцця нам у спадчыну.

Шлях П.Труса быў няпросты. Засталіся пра гэта некаторыя сведчанні. Ён шчыра вітаў нараджэнне новага чалавека і ў сваім імкненні заняў пэўную, строга акрэсленую пазіцыю: "Калі я стаў сустракацца з людзьмі, якія не ведаюць і нават не хочуць прызнаць, што існуе нейкая Беларусь, не гаворачы ўжо аб яе багатым гістарычным мінулым, то гэта яшчэ больш надавала мне ахвоты абудзіць у людзей забытую нацыянальную свядомасць, абудзіць сярод іх любасць да Беларусі, у прыватнасці, да беларускай мовы і літаратуры".

Такое разуменне сэнсу беларускага адраджэння здавалася дзіўным для некаторых крытыкаў таго часу.

Пры жыцці П.Труса ўпікалі: "Трэба адзначыць вялікі ўхіл Паўлюка Труса ў бок любоўных тэм. Гэта — нездаровае з'явішча. Мы б раілі даць больш увагі тэмам аб праламленні ў вёсцы Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе вынікаў". Не абміналі паэта спрэчкі, дыспуты, паленіка ў друку, папрокі і абвінавачванні. Былі і пажаданні яму: вучыцца, браць ад спадчыны найлепшае, але быць у сваіх творах непрымірымым да класавых ворагаў...

Яму ставіліся ў віну "ідэалізацыя ўласнасці", "паэтызацыя містычнай забабоннасці". Адзначаліся "хваравітыя енкі і скаргі, ноткі ранняга расчаравання". Крытыкаваўся ён за тое, што падпадаў пад уплыў М.Багдановіча і "атрутны струмень ясенішчыны".

Р.Сабаленка ўспамінаў, што ў кнігах, дзе П.Трус выказваў любоў да роднай Беларусі, нехта алоўкам пазначаў: "нацыяналізм", або "вясковая абмежаванасць" ці "ідэалізацыя мінуўшчыны". Нейкі халодны рамеснік, відаць, хацеў раскласці паэта па палічках і абвінаваціць ва ўсіх смяротных грахах.

Аўтару гэтага артыкула пашчасціла прагледзець усе без выключэння выданні твораў П.Труса. Магу засведчыць: на старонках аднаго з іх халодная рука новага рамесніка падкрэслівала радкі, дзе гаварылася аб усхваленні ім савецкай рэчаіснасці.

Так сталася, што ў "Маладняку" адбыўся раскол, і ўслед за іншымі выйшаў з яго і П.Трус. Гэтае рашэнне было цяжкае, і ён нават падаваў заяву аб вяртанні ў аб'яднанне. А тым часам ішла "апрацоўка" паэта членамі аб'яднання "Узвышша". Аднак да паяднання з "Узвышшам" ён не спяшаўся, а потым у апошнія месяцы жыцця далучыўся да БелАППа.

### "АСТРАМІ ДНІ АДЦВІТУЦЬ, БУДУ Ў ДУШЫ МАЛАДЫМ!.."

У лісце П.Труса да П.Глебкі ад 14 лістапада 1927 года часткова раскрываецца сутнасць канфліктаў. "Няхай, братка, гаўкаюць, — на гэта яны толькі і здатны. Не зважай!.. Ты ж, напэўна, чытаў і аба мне. Пісаў нейкі П.Брусніца... Няхай пішуць, а наша справа — тварыць - тварыць сапраўдную літаратуру..." У лісце ад 21 студзеня 1929 года: "Я табе гаварыў яшчэ аб той траўлі, якая была накіравана супраць мяне".

Або яшчэ: "Жыву як гарох пры дарозе: хто ідзе, то ўшчыпне, а то ўсміхнецца. Бывае часам весела, а іншы раз дык хоць плач горкімі слязьмі. У такія хвіліны суцяшаю сябе творчасцю. Пішу шмат, а яшчэ больш чытаю. За гэты час перачытаў амаль усяго Кнута Гамсуна, Пушкіна трэці раз, Данілеўскага, а цяпер чытаю Льва Талстога" (ліст ад 21 студзеня 1928 года).

Не сакрэт, што пры жыцці паэта на яго было сабрана дастаткова так званых "кампраметуючых" матэрыялаў. У 1931 годзе іх папоўніў вульгарны крытык Л.Бэндэ. У прадмове да акадэмічнага выдання 1934 года, у якое ўвайшлі і творы П.Труса з рукапісаў і насценгазет, перавыдадзенага затым у 1935 годзе, яго імя таксама не пашкадавалі.

Урэшце, ці магло абысці яго, віднага, смелага чалавека і паэта, падазрэнне за радкі ў "Дзесятым падмурку" аб грозных прадчуваннях-папярэджаннях:

*І ў муках крывавых*
*чыясьці рука*
*крывавыя піша законы...*

Хмары згушчаліся, і паэт прадчуваў свой лёс:

*— Гады, гады! Чаму так рана*
*Вы адцвілі ў красе вясны?*
*Няўжо затым, што мне на Яна*
*Перад люстэркамі з туману*
*Ўсплывалі вобразы труны?*

У апошнія месяцы скардзіўся, што пра яго гавораць: "пакойнік Павел Адамавіч". Пісаў аб хвалях чалавечага існавання, аб жоўтым лістападзе людскіх пакаленняў:

*Ў цішыні*
*адшумяць яны скора,*
*і ты скажаш, —*
*было гэта ўчора!..*
*Мо таму, што жыццё —*
*адзін момант?*

І гэты момант нечакана прыйшоў. Пасля паездкі ў калгас на Магілёўшчыну П.Трус занямог, позна звярнуўся ў чыгуначны шпіталь, дзе і памёр ад брушнога тыфусу 30 жніўня 1929 года — невядомым, у калідоры...

ЗАЎЧАСНАЯ смерць ускалыхнула Беларусь. Усе раптам уявілі маштабы незваротнай страты. Жыццё паэта абарвалася, калі значны мастацкі талент уступіў у фазу свайго красавання, калі паэтычныя здольнасці пачалі раскрывацца ва ўсю шыр, абяцаючы ў будучым плён яшчэ большых дасягненняў.

... Яго везлі жнівеньскім днём на аўтамабілі па раскапанай пад будаўніцтва ўспетага ім трамвая Савецкай вуліцы ў Мінску. У Дом Літаратара развітацца з Паўлюком Трусам прыйшлі прыгнечаныя горам блізкія, літаратары, прадстаўнікі моладзі, грамадскасці, уладаў. Нікому не верылася, што паэта — такога блізкага і маладога — ужо няма. Па гарачых слядах гэтай гараснай падзеі М.Гарэцкі напісаў шчымлівыя нататкі.

У хуткім часе толькі пясчаны курганок на Вайсковых могілках, закрыты любымі паэту асеннімі астрамі, пазначаў месца апошняга прыстанішча песняра —

*Астрамі дні адцвітуць, —*
*Буду ў душы маладым!..*

Пазней маладнякоўцы ўладкавалі магілу, паставілі на ёй помнік з барэльефам паэта, які стварыў скульптар Заір Азгур.

Зямляк паэта Павел Шыдлоўскі казаў: "А жыў бы Паўлюк і зараз. Каб не тая хвароба, што ў горадзе яго зваліла..." Мяне ж не пакідае думка аб нейкай наканаванасці ў тым ці іншым варыянце гэтай заўчаснай смерці.

Мне таксама незразумела, чаму за 65 гадоў з дня смерці выдатнага беларускага паэта мы, яго нашчадкі, так і не разабраліся, не ацанілі належным чынам яго творчасць як несумненна класічную. Не ацанілі хаця б у тым, што з 1935 года на працягу 60 гадоў поўны збор яго твораў не перавыдаваўся. Будзем спадзявацца, што ім будзе адзначана хоць яго стагоддзе.

На радзіме паэта П.Труса ў гарадскім пасёлку Узда ёсць бібліятэка яго імя, у якой захоўваецца многае, што звязана з жыццём славутага земляка. Нешта ёсць у раённым гісторыка-краязнаўчым музеі, у школе ў вёсцы Нізок. Аднак усё дадатнае рассыпаецца ў прах ад абыякавасці тых, хто і пальцам не варухнуў, каб за некалькі дзесяцігоддзяў аднавіць як музей родную хату паэта. Гэта пра яе П.Трус пісаў:

*Ну вось і хата без сянец,*
*Садок запушчаны пры хаце...*

Усё ж ёсць і добрая навіна, ёю мы і скончым свае развагі. Да 90-годдзя з дня нараджэння паэта нястомная Ніна Ватацы з нядаўна памёршым Яфімам Садоўскім склалі зборнік каштоўнейшых успамінаў пра П.Труса яго сучаснікаў, сяброў пад назвай "Голас вясны далёкай". Мне здалося, што гэтым актам з нас знята частка віны перад паэтам. З матэрыялаў зборніка паўстае новы, больш змястоўны вобраз паэта-песняра, творчасць якога належыць будучыні. Вялікі дзякуй укладальнікам гэтай патрэбнай працы! На многіх матэрыялах гэтага выдання грунтуецца і наш артыкул.

Уладзімір КІСЯЛЁЎ.

# Няма лепшай хаткі, чым у роднай маткі

*Роздум пасля Дзён адчыненых дзвярэй у Ждановіцкім дзіцячым доме*

Сонейка ў той ранак вельмі хораша выкацілася на блакітны небасхіл, са сваіх цёплых промняў выткала цудоўнае надвор"е. Стваралася ўражанне, што яно спецыяльна спрыяла паспяховаму правядзенню Дзён адчыненых дзвярэй у Ждановіцкім дашкольным дзіцячым доме. Людзі вылузваліся з куртак, плашчоў, здымалі з галоў кепкі, услухоўваліся ў песні жаваранкаў, што званочкамі віселі над будынкам. Адным словам, ва ўсіх быў цудоўны настрой. Але ён знік увачавідкі, калі пераступілі парог гэтай установы, бо ўбачылі тужлівыя вочы хворых дзяцей. Яны сіроты пры жывых бацьках. Тыя, што іх нарадзілі, ніколі не гушкалі сваіх немаўлятак на руках, не прымяралі ім абновы, не спявалі над калыскай калыханку. Ад большасці гэтых дзяцей маці адмовіліся ў радзільным доме. Дзе цяпер тыя «зязюлі»? Дырэктар дзіцячага дома Т.В.Красоўская да праграмы правядзення Дзён адчыненых дзвярэй прыклала кароткія звесткі пра бацькоў сваіх маленькіх выхаванцаў. Сэрца камянела ад жаху, калі чытаў, што ў хлопчыка Андрэйкі пяцёра брацікаў і сястрычак. Усе яны выхоўваюцца ў такіх установах, бо тыя, хто даў ім жыццё, пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Ці яшчэ адзін прыклад. Месяц таму назад такое ж мерапрыемства праводзілася ў Жодзінскім дзіцячым доме. Вельмі ж там чакалі сваю маці сямігадовая Людміла Баркун і яе чатырохгадовы брацік Саша. Не прыехала. Не дачакаўся яе і сынок Ігар, які выхоўваецца ў Ждановічах. Гулёне-распусніцы не да дзяцей. У разбэшчанага чалавека, напэўна, не існуе інстынкту і пачуццяў маці. Ды ці адна яна такая? Як сведчыць статыстыка, цяпер у Беларусі налічваецца 316 тысяч дзяцей з недахопамі ў разумовым і фізічным развіцці. Хто вінаваты, што дзіця нарадзілася з падобнымі адхіленнямі? У большасці выпадкаў — бацькі: алкаголь, нікацін, бойкі бязлітасна калечаць бездапаможны плод маці, калі такую жанчыну можна назваць гэтым дарагім словам. Карацей кажучы, нашы дзеці ў бядзе. Яны хочуць жыць шчасліва і радасна, з надзеяй пазіраць у заўтрашні дзень. Не выправім становішча — паявяцца новыя «адмаўляты», бо дзяўчаты-распусніцы як мухі ліпнуць да сытых і раўнадушных гандляроў з тугімі кашалькамі, ідуць з імі ў рэстаран. Такія сустрэчы звычайна заканчваюцца ложкам. Потым, нават не глянуўшы ў вочкі-зорачкі нованароджанаму, такая маці адмаўляецца ад свайго дзіцяці. Бязвінная сірата трапляе ў дзіцячы дом. І расце яна, не ведаючы свайго радаводу. Маральная спустошанасць, бы навальнічная хмара, напаўзае на маладое пакаленне. Як сведчаць міліцэйскія праверкі, нават дзяўчынкі школьнага ўзросту ахвотна кладуцца ў пасцель. О, божа, прышлі нам выратаванне ад такой спакусы.

Маці-"зязюлі". Што з іх возьмеш? — нярэдка даводзіцца чуць. Не магу пагадзіцца з такой высновай. За ўсё трэба адказваць. Народныя суды разглядаюць справы, караюць людзей, якія парушылі законнасць. Але ж існуе суд не менш строгі і патрабавальны і для начных «матыліх». Гэта суд сумлення, калі пачынаецца ўнутранае ачышчэнне, калі трэба спытаць: што раблю, ці так жыву? Спытайце аб гэтым у сябе ўсе тыя, чые дзеці з-за вашых лёгкіх паводзін апынуліся ў дзіцячых дамах. Чым часцей будзеце задумвацца аб сваіх грахах, тым менш стане няшчасцяў, бед і гора на зямлі. Можа, тады ў вашых душах адбудзецца круты паварот, і вы паявіцеся ў Ждановічах, дзе цёпла, па-мацярынску скажаце: «Сыночак, я прыехала па цябе...» Але пакуль, на вялікі жаль, гэтага яшчэ не зрабіў ніхто. Хочацца верыць, што ў многіх усё ж павінна настаць ачышчэнне душ ад разгульнага жыцця. Прыйдзі, пакаянне! Абарані іх ад брудных і ганебных крокаў!

Перад пачаткам мерапрыемства мы знаёміліся з тэрыторыяй дзіцячага дома. Захапляліся кожным метрам плошчы, бо такой прадуманасці ў афармленні я нідзе ў Мінску нават не бачыў. Менавіта тады і пачуў ад жанчыны, якая праходзіла міма:

— І ўсё ж няма лепшай хаткі, чым у роднай маткі.

Сапраўды, любога работніка — ад вартаўніка да міністра — можна замяніць такім жа або яшчэ больш здатным чалавекам. Маці нічым замяніць нельга, хаця ў Ждановіцкім дашкольным дзіцячым доме імкнуцца дамагчыся такога.

Загадвае гэтай установай Т.В.Красоўская. Душэўная і строгая, а галоўнае, што падкупляе ў характары дырэктара дзіцячага дома, дык гэта тонкае веданне чалавечай псіхалогіі. Гэта, напэўна, спадчыннае, бо яе маці Валянціна Кузьмінічна ўсё жыццё працавала настаўніцай. І сястра яе Ніна таксама свой лёс звязала з выхаваннем. Яна — дэфектолаг. Дарэчы, у Тамары Васільеўны тры педагагічныя прафесіі: філолаг, дэфектолаг, дашкольная псіхалогія і педагогіка.

Больш за 10 гадоў таму назад яна прыехала сюды на працу. Што ўбачыла? Сухі кактус на падаконніку і прастуджаных дзетак у валёнках. А цяпер куды ні глянь — суцэльная прыгажосць. Нездарма Міністэрства адукацыі рэспублікі на базе гэтага дзіцячага дома часта праводзіць семінары. Колькі трэба было жанчыне мець душэўнай сілы, каб пазбавіцца ад запусцення, каб ператварыць закінутыя будынiны ў казачны гарадок. Змагла! У многім шэфы дапамаглі.

— Цяпер усё ёсць у нашых дзяцей, мам толькі няма. Вось мы і стараемся іх замяніць, — цяжка ўздыхнуўшы, зазначыла Тамара Васільеўна.

Паўтаруся, цяжкая і амаль немагчымая справа — замяніць маму. Яна пад сілу далёка не кожнаму. Нават самы добры чалавек не заўсёды падыходзіць для такой адказнай работы, якая патрабуецца ад работніка дзіцячага дома. Ні выхадных, ні вольных вечароў. Расказвалі, што дырэктар нярэдка і ноччу каля сябе кладзе блакнот і аловак, каб запісаць, калі нешта каштоўнае выплыве з памяці.

Удзельнікаў Дня адчыненых дзвярэй запрасілі ў групы, дзе мы прысутнічалі на занятках, гутарылі з выхавальнікамі. Не злічыць, колькі казак яны расказваюць толькі на працягу аднаго дня, колькі разоў пяшчотна праводзяць рукой па галоўках сваіх выхаванцаў. Выхавальнікі такіх устаноў заслугоўваюць таго, каб іх працу называлі подзвігам. Працу такую неабходную, нягучную і, на жаль, пакуль непрэстыжную. Іх праца патрабуе спачування, цярпення, духоўных сіл і фізічнай трываласці. Праца, сутнасць якой — заўсёдная гатоўнасць дапамагчы дзецям, якія трапілі ў экстрэмальныя сітуацыі. Таму і вучацца яны цярпліва і ўважліва слухаць, суцяшаць, супакойваць. І робяць усё гэта пры незайздроснай зарплаце. Пра каго кажу? Пра выхавальнікаў Н.Шалаеву, Л.Прасмыцкую, В.Лапцік, С.Лепскую, Л.Раманчык, Т.Сосна, Т.Каленікаву і іншых, ад чыйго майстэрства, педагагічнага такту залежыць станаўленне сённяшніх хлопчыкаў і дзяўчынак, што жывуць пад дахам дзіцячага дома.

Быў наладжаны канцэрт. Дзеці спявалі, танцавалі, чыталі вершы, ігралі на музычных інструментах. Іх апранулі ў беларускае нацыянальнае адзенне. Хацелася думаць, што перад імі сядзяць іх мамы і таты. Але, яшчэ раз паўтаруся, ніхто з іх не прыехаў на Дзень адчыненых дзвярэй. Прыехалі тыя, хто хоча дзіця ўсынавіць. Паклонімся іх гуманізму і самаахвярнасці!

Усе жадаючыя атрымалі кансультацыі юрыста па пытаннях усынаўлення і апекі, урача-педыятра і іншых спецыялістаў.

Уладзімір КОБРЫН.

**На здымках:** вядучы арганізатар абласнога ўпраўлення адукацыі, педагог-дэфектолаг дзіцячага дома **Л.І.Главінская**; на занятках па кухоннай справе ў групе **Н.М.Шалаевай;** на канцэрце мастацкай самадзейнасці.

Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.

## ■ Нашы кансультацыі

# Аплата камунальных паслуг

У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, за карыстанне камунальнымі паслугамі (водазабеспячэнне, газ, электрычная, цеплавая энергія) грамадзяне, якія пражываюць у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, абавязаны своечасова ўносіць плату па зацверджаных ва ўстаноўленым парадку тарыфах.

У апошні час рэзка ўзрос кошт паліўна-энергетычных рэсурсаў, што выклікала павелічэнне размеру платы за камунальныя паслугі. Асабліва востра гэта адчуваюць маламаёмныя слаі насельніцтва, пенсіянеры, інваліды, маладыя сем'і і інш. Зараз у кватэрах няма прыбораў уліку колькасці спажывання вады, цяпла, газу (акрамя электраэнергіі). Таму мы абавязаны акуратна кожны месяц аплачваць камунальныя паслугі. Нават тады, калі не карысталіся імі з-за сваёй адсутнасці. Такія выпадкі маюць месца амаль у кожнай сям'і. Гэта можа быць водпуск, знаходжанне ў лячэбнай установе, службовай камандзіроўцы, на практыцы або канікулах (для вучняў і студэнтаў), вайсковых зборах і іншыя ўважлівыя прычыны часовай адсутнасці грамадзян.

Таму ў мэтах сацыяльнай абароны насельніцтва па прапанове Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне ( ад 4 лютага 1994 г. №07 332-6) аб тым, што з грамадзян, якія часова адсутнічалі ў месцы пастаяннага пражывання, плата за камунальныя паслугі (якімі яны фактычна не карысталіся) не бярэцца. Жыллёва-эксплуатацыйным арганізацыям дазволена рабіць па заявах жыхароў пераразлік налічаных сум платы за камунальныя паслугі ў выпадку іх адсутнасці па ўважлівых прычынах, незалежна ад тэрміну адсутнасці ў месцы пастаяннага пражывання. Пераразлік робіцца пры прадстаўленні дакумента, які пацвярджае гэты факт. Як і раней, ад платы за тэлефон, радыё і ацяпленне асобы, якія адсутнічалі, не вызваляюцца.

Вызначаны парадак распаўсюджваецца на ўсіх наймальнікаў (паднаймальнікаў) жылых памяшканняў і членаў іх сем"яў, якія пражываюць як у дамах мясцовых Саветаў, так і ў ведамасных, грамадскага жыллёвага фонду, жыллёва-будаўнічых кааператываў, індывідуальных (падключаных да адпаведных інжынерных камунікацый) і кватэрах прыватнай уласнасці.

Віктар САВІЦКІ,
галоўны спецыяліст
Кіраўніцтва справамі
Савета Міністраў
Рэспублікі Беларусь.

## ■ Марысіны "анекдоцікі"

***Праязджаючы вёску Альхоўка, не мог не зайсці да цёткі Марысі. Яна цяпер цэлымі днямі корпаецца ў агародчыку. Радуецца сонцу, спевам птушак. І як заўсёды, ёй ёсць што расказаць субяседніку.***

### Джынсамі па дэмакратыі

Можа, чулі, як у нашым калгасе старшыню здымалі? Камедыя, дый годзе. Ён, старшыня Зэдлік, вельмі ж разышоўся. Цягнуў дадому ўсё што пад руку трапляла. Заблытаўся ў розных бартэрах, да чужых кабет шастаў. Каб раней, дык гэтага Зэдліка даўно б турнулі. А цяпер дэмакратыя. Раздолле дзялкам і ліхадзеям. І ўсё ж пракуратура пачала «віць клубок». Старшыня на дыбкі: «Хочаце мяне зняць? Не атрымаецца. Людзі за мяне гарою стануць».

Пачаў Зэдлік задобрываць найбольш гарластых мужыкоў, якія падкідвалі яму «стрэмкі» на сходах. Дапяў у Польшчу, закупіў там мо дзвесце пар джынсаў. І пад гукі аркестра ўручыў іх тым крыкунам як пераможцам спаборніцтва. Стварыў, як казалі ў вёсцы, баявую каманду, якую ўзначалілі падхалімы — кладаўшчыкі, брыгадзіры, эканамісты.

Зрабіў Зэдлік «ход канём» і да пенсіянераў. Заходзіў у хаты, абяцаў выдаць цукар, грэцкія крупы. Некаторыя бабулі ажно плакалі ад радасці: «Вось гэта чалавек. Вось гэта карміцель наш».

Ну, сабраўся справаздачны сход. Зэдлік сыпаў у сваёй прамове лічбамі як гарохам. А яму з залы паляцелі розныя пункцікі. Чаму, пытаюцца людзі, дохнуць свінні на ферме? З чыйго дазволу старшыня купіў усяго за пяць тысяч рублёў калгасную «Волгу»? За якія сродкі пабудаваў сабе асабняк, а пра жыллё для вяскоўцаў ніхто і не думае?

Зэдлік спацеў. Разгублена глядзіць на пярэднія рады, дзе сядзіць яго «баявая каманда». Тыя панура апусцілі галовы. Вельмі ж накруціў, наварочаў крыміналу старшыня. Маўчалі «верныя сябры». Толькі кладаўшчык Францішак крыкнуў п'яным голасам: «Няхай Зэдлік кіруе намі. Такіх душэўных людзей берагчы трэба». Яго падтрымаў фуражыр Антосік: «Старшыня для нас як бацька родны!»

Іх ніхто не слухаў. «Бяздджынсавых» у зале, відаць, было больш. Перайшлі на тайнае галасаванне. Старшынёй выбралі аграномаПерапечку. Як бачыце, праўду джынсамі не прыкрыеш.

### Мішык

У суседкі Хрысціны старэйшы, сын Адам начальнікам нейкім у райцэнтры працуе. Часам наведвае ён маці. Тады ў хаце свята. Хрысціна імкнецца добра пачаставаць Мішыка — шафёра сына. І каўбаскі яму лепшы кавалачак пакладзе, і памідорчык чырванейшы. А калі застаюцца начаваць, дык Мішыку і ложак бліскучы, і пярынкі, і падушкі. Я не вытрывала і неяк запытала, чаму гэта Хрысціна так улагоджвае гэтага маўчуна. Ад яго ж за вечар і слова не пачуеш.

Хрысціна не любіць адкрываць сямейныя тайны, але ўсе ведаюць у вёсцы, што Мішык гэты — як жалезная падпора яе сыну. Калі той дзе-небудзь нап'ецца да пасінення, дык шафёр без шуму стуку-груку даставіць яго дадому. І распране, і разуе. Прывязуць з калгаса цялё аблупленае, або тушку свіную, ці вядро мёду — Мішык і тут усё зробіць, каб было шыта-крыта. Начальнікі любяць такіх верных слуг, такіх маўчуноў.

А вы кажаце, што шафёр начальніцкі — маленькая шышка. Шышка, ды яшчэ якая. Хаця і расце яна ў цяньку, непрыкметная з выгляду. Мішык, як павук, заблытаў свайго, як цяпер кажуць, спадара ў павуцінне. Без яго ўжо не дзеляць у калектыве прэміі, не складаюць спіс тых, каму ісці на суботнік, і гэтак далей.

Дайшло да таго, што Мішык праз Адама дапамагае сваякам тэрмінова аформіць дакументы на пенсію, здаць без чаргі бычка на базу і нават выбіць крэдыт у банку для будаўніцтва асабнякоў. Так што калі і ў вас ёсць якая-небудзь «задачка», то праз Мішыка яе можна вырашыць. Не смейцеся, не смейцеся. Такія шустрыя сёння ў модзе.

### Як Ахрэм камерсантам стаў

Цяпер усе кінуліся ў камерцыю. Каб хутчэй набіць кашалёк, каб разбагацець. Вунь Віцік, сын Ахрэма Стручка, угаварыў бацьку, каб той кідаў сваю ферму, догляд бычкоў ды ішоў да яго ў кааператыў «Раздолле». Ахрэм надзеў нейкі зіпун замежны з бліскучымі гузікамі і цэлымі днямі тырчыць у ларочку. Прадае каву, «снікерсы», іголкі.

Неяк напрадвесні Віцік прывалок бацьку мо скрынак пяць марожанага. Гандаль спачатку ішоў бойка. Ахрэм вырашыў падкруціць цану вышэй. Адразу на дзвесце рублёў за порцыю. Пакупнікі адыходзілі, здзіўлена глядзелі на прадаўца: «Ну загінаеш, бацька...» Ахрэм разлічваў, што калі не прадасць марожанае сёння, дык купяць заўтра. Праўда, ён ішоў на рызыку. Халадзільніка ў кіёску няма. Пачуў адным вухам, што ноччу чакаюцца замаразкі, — і гэта супакоіла.

Ноччу, як на тое ліха, пайшоў дождж. Слупок тэрмометра папоўз уверх. Ахрэм яшчэ на золку пешшу дапёр да райцэнтра. Дрыжачымі рукамі адамкнуў замок на ларочку. У трох нераспячатаных скрынках была суцэльная белая калатуша. Заплакаў Ахрэм горкімі слязьмі.

Калі будзеце ў райцэнтры, дык падыдзіце да ларочка з маляўнічай назвай «Раздолле». Там, абапёршыся на вузкі брусок-прылавак, сумна глядзіць наўкол Ахрэм Стручок. Мне здаецца, ён думае пра калгасную ферму, пра сваіх бычкоў. Я неяк падышла да ларочка. Купіла шнуркі для чаравікаў. Ахрэм пачырванеў, апусціў вочы. Размова ў нас не заладзілася.

### "Зайчыкі" ў сячкарні

Не люблю скнараў. Усё плачуць, некага праклінаюць, некаму зайздросцяць. Мала ім тых грошай, таго багацця. Вунь Арына Ляпёшка. Худая як стрэмка, сама сабе есці шкадуе. Мужа ў магілу загнала. І дачка Гэлька ў маці пайшла. Такая ж скупеча.

Летась прымак да яе прыстаў. Нічога ж і хлопец быў. Падвозчыкам на ферме рабіў. З палучкі аднойчы купіў гумавыя боты і пачак цыгарэт. Дык выгналі прымака Ляпёшкі. Кажуць, за свавольства з фінансамі. Абедзве яны цялятніцы. Добра зарабляюць. Але пусціць рубель для іх — о-го-го. Лепш дадуць палец на руцэ адсекчы.

Можа ж чулі, як сёлета зімою насмяшылі Ляпёшкі ўсю вёску. Пайшлі Арына з Гэлькаю ў хлевушок сечку рэзаць. Ляжаў там стары матрац, напханы пазалеташнім сенам. Каб не прапала яно, вырашылі пусціць у сячкарню. Круць-верць націсну — і бачаць, што разам з сечкаю пасыпаліся жоўтыя ды зялёныя папяровыя палоскі. «Божухна, грошы!» — схапілася за сэрца Ляпёшчыха, — Гэта ж я схавала сюды палучку і прэмію, ды забылася".

Тыдні два вечарамі склейвалі маці з дачкою тыя палоскі. Ды нічога, відаць, не выйшла. У банку сказалі, што нейкія там нумары на «зайчыках» не сыходзяцца.

*Запісаў Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## ■ Музеі

# ЯК НА ГАЛОЎНЫ ЎРОК

Далёка за межамі Валожынскага раёна вядомы музей Лоскай няпоўнай сярэдняй школы, прысвечаны гісторыку і філосафу Сымону Буднаму. Ён пастаянна папаўняецца новымі экспанатамі, у пошуку якіх дырэктар навучальнай установы М.І.Вайцюлевіч аб"ездзіў многія музеі і архівы Мінска, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса. Нядаўна ў Лоску праведзены абласны семінар кіраўнікоў школьных краязнаўчых музеяў. Яго ўдзельнікаў пазнаёмілі з экспанатамі, якія адлюстроўваюць гісторыю вёскі ад старажытнасці да сённяшніх дзён.

— Не знікае цікавасць да музейнай справы і ў іншых навучальных установах. Мы задаволены работай музеяў Пяршайскай, Вішнеўскай, Бярданаўскай, Гародзькаўскай, Ракаўскай і некаторых іншых сярэдніх школ раёна, — зазначыў загадчык аддзела адукацыі райвыканкома С.Г.Міцэвіч.

У той дзень Сяргей Геранімавіч параіў наведаць гісторыка-краязнаўчы музей Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната, у якім сабрана больш за тры тысячы экспанатаў. Сваіх першых наведвальнікаў ён прыняў у 1980 годзе. Тут шэсць залаў. Выхаванцы дома-інтэрната прыходзяць у музей як на галоўны ўрок. І гэта зразумела. Чым больш імклівы час аддаляе нас ад той ці іншай падзеі, тым больш каштоўны кожны дакумент, які пралівае святло на «справы даўно мінулых дзён».

Ініцыятарам стварэння гэтага музея стаў дырэктар дома-інтэрната Ф.Л.Гольшмід — адзін са старэйшых педагогаў раёна.

Застаецца пашкадаваць, што ў некаторых навучальных установах вобласці знікае цікавасць да музейнай справы. Хіба ж не аб гэтым гаворыць той факт, што ні ў адной школе-інтэрнаце, ні ў адным дзіцячым доме Міншчыны не створаны музеі. А іх больш за 30. Недаравальнае грэбаванне! Музейныя экспазіцыі дабратворна ўплываюць на навучальна-выхаваўчы працэс, садзейнічаюць павышэнню грамадскай актыўнасці настаўнікаў і вучняў. Нельга прамаўчаць і аб тым, што многія школьныя музеі гадамі не папаўняюцца новымі матэрыяламі, не абнаўляюцца іх экспазіцыі. І гэта цяпер, калі шырока разгарнулася адраджэнне нашай гістарычнай і нацыянальнай спадчыны.

Калі хто не ведае, з чаго пачаць арганізацыю музея, наведайце школы Валожынскага раёна. У кожнай з іх вам дадуць падрабязную кансультацыю.

*Уладзімір КОБРЫН.*

# МАЕ ГАДЫ — МАЁ БАГАЦЦЕ

Пад такім дэвізам у Доме культуры чыгуначнікаў г.Маладзечна прайшоў агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці ветэранаў вайны і працы, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Яго пачаў Аркадзь Бабёр песняй Юрыя Семянякі на словы Уладзіміра Карызны «Якая ты цудоўная, Радзіма». А ўсяго выканана каля ста нумароў. Былі прадстаўлены ўсе жанры самадзейнага мастацтва.

У спіс пераможцаў трапілі салісты М.Ц.Слабадзюк, В.А.Глянцава, Ю.А.Пасынкаў, А.М.Грынеўская, А.М.Бабёр, П.А.Сталбавенка, Я.С.Васільеў і інш.

Адзначаны за раскрыццё паэтычнай тэмы мясцовы паэт В.І.Шнуркевіч, збіральнік вуснай народнай творчасці А.І.Матуць, аўтар верша аб ветэранах вайны Н.А.Горліна, за сцэнічнае майстэрства і абаяльнасць — К.М.Паўлава.

Усяго заахвочана звыш 20 выканаўцаў. Умовы конкурсу не прадугледжвалі такую колькасць талентаў. Але, як кажуць, з любой сітуацыі можна знайсці выйсце. Знайшлі яго і тут. Дэпутат гарадскога Савета В.Г.Макееў з асабістага бюджэту выдзеліў на заахвочванне самадзейных артыстаў 30 долараў ЗША.

*Іван СЦЯПАНАЎ, старшыня Савета гарадской ветэранскай арганізацыі, старшыня журы.*

**Фотарэпартаж**

# СПРЫТНЫЯ І СМЕЛЫЯ









*Авіяцыйна-спартыўнае свята, прысвечанае Дню Перамогі, адбылося паблізу ваеннага гарадка "Масюкоўшчына". Яно было арганізавана Беларускім абаронным спартыўна-тэхнічным таварыствам і Фрунзенскім раённым Саветам дэпутатаў г.Мінска. Шматлікія гледачы сталі сведкамі захапляючых спаборніцтваў 1-га этапа асабіста-каманднага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па аўтакросу, пілатажу на верталётах, скачкоў парашутыстаў. Самадзейныя артысты выступілі са святочным канцэртам.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# СУСТРЭЛІСЯ ЧЭМПІЁНЫ

На гэты раз для падвядзення вынікаў мінулага года на сход фізкультурна-спартыўнага актыву Барысаўскага раёна былі запрошаны не толькі настаўнікі фізкультуры і выкладчыкі спецыяльнай падрыхтоўкі агульнаадукацыйных школ, трэнеры ДЮСШ, пераможцы раённых, абласных і рэспубліканскіх спаборніцтваў, а і ўдзельнікі і прызёры чэмпіянатаў свету і Алімпійскіх гульняў — ураджэнцы Барысаўшчыны.

Сярод ганаровых гасцей сходу былі адна з мацнейшых лыжніц рэспублікі, удзельніца зімовых Алімпійскіх гульняў у Лілехамеры, выпускніца Жыцькаўскай сярэдняй школы Алена Сінькевіч, неаднаразовы чэмпіён рэспублікі, пераможца чэмпіянату свету па біятлону сярод юніёраў, выхаванец Стара-Барысаўскай сярэдняй школы Сяргей Сакалоўскі, другі выпускнік той жа школы — удзельнік спаборніцтваў на Кубак Рэспублікі Беларусь па біятлону 1994 года Вячаслаў Пятрэнка, чэмпіён рэспублікі 1956 года па цяжкай атлетыцы сярод сельскіх спартсменаў, былы настаўнік Дроздзінскай школы Міхаіл Вінакураў і іншыя знакамітыя спартсмены.

Алена Сінькевіч і Сяргей Сакалоўскі расказалі аб напружанай працы, якой патрабуе вялікі спорт, падзяліліся ўражаннямі аб спаборніцтвах на Алімпійскіх гульнях і чэмпіянаце свету.

Лепшым спартсменам раёна былі ўручаны каштоўныя падарункі: хрустальныя вазы і наручныя гадзіннікі. Старшыня райспорткамітэта Валерый Курневіч з вялікай удзячнасцю назваў прозвішчы кіраўнікоў прадпрыемстваў, гаспадарак, сельскіх Саветаў, якія нават у такі няпросты час маральна і матэрыяльна падтрымліваюць развіццё фізкультуры і спорту. Гэта дырэктар Прымінскага рамонтнага завода Віктар Радзюк, дырэктар саўгаса-камбіната "Барысаўскі" Аляксандр Акуліч, старшыня калгаса "Маяк" Віктар Новік, дырэктар саўгаса "Стара-Барысаў" Георгій Куляшоў, старшыня калгаса "Лошніца" Уладзімір Задорын, старшыня Перасадскага сельсавета Міхаіл Сазанёнак і намеснік старшыні Лошніцкага сельсавета Міхаіл Ціханенка. Менавіта яны садзейнічаюць выжыванню фізкультуры і спорту і тым самым спрыяюць выхаду таленавітых юнакоў і дзяўчат Барысаўшчыны ў вялікі спорт. А гэта надае веры ў тое, што чэмпіёны-землякі будуць радаваць нас новымі поспехамі.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## ХАТНІ ЭКРАН !

### 12 мая, чацвер

***Беларускае тэлебачанне***

19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.35. "Цеціва". Д/ф.
19.45. Расказ пра новыя тэхналогіі.
20.00. Будучыня страхавой медыцыны.
20.10. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.55. "Семнаццаць імгненняў вясны". 10-я серыя.
23.05. Надвор'е.
23.15. НІКа.
23.30. "Крок".

***Канал "Астанкіна"***

16.10. ... Да 16 і старэйшым.
16.50. Тэхнадром.
17.25. За кулісамі. Рускія адыходзяць.
17.45. Дакументы і лёсы.
17.50, 20.35. Надвор'е.
17.55. "Раскол". 3-я серыя.
18.55. Каб помнілі... Аўтарская праграма Л.Філатава.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Лато "Мільён".
22.05. "Гэты няясны аб'ект жадання..."

***Канал "Расія"***

19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Гранд-рэпартаж.
21.00. Звычайная справа.
21.20. Арт-абстрэл..
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Экран крымінальных паведамленняў.
23.05. Плён асветы.
23.35. Пецярбургскія гісторыі.

### 13 мая, пятніца

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Дзелавая хроніка.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.45. "Добры лес".
9.00. Тэлебачанне — школе. Максім Багдановіч і яго паэзія.
9.40. "Семнаццаць імгненняў вясны". 10-я серыя.
10.50. Студыя "Тэлесябрына". Велікоднае рэха.
12.40. "Карамболь". Ток-шоу з удзелам Н.Вятліцкай.
13.15. Пазіцыя ўрада.
13.30—13.40. Навіны.
15.20. "Свой родны кут".
15.35. "Тое, што нельга сказаць словам..."
16.20. Новая "Крыніца".
17.05. Да 50-годдзя вызвалення Беларусі.
17.30. Навіны.
17.40. "Зямлі маёй паданні".
18.00. Дзелавая хроніка.
18.10. Абласныя навіны.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Навошта дадзена ўлада?Іўеўскі раён.
19.45. Рэйтынг.
20.00. Да 50-годдзя вызвалення Беларусі.
20.20. Студыя "Тэлесябрына".
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. Пяць хвілін на жарты.
21.50. "Таміра" прапануе: "Дзесяць гадоў без права перапіскі". Маст.фільм.
23.35. Надвор'е.
23.45. НІКа.
24.00. "Рок-айленд".

***Канал "Астанкіна"***

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
8.20. "Басаногі Ген". Маст.фільм.
9.35. Народныя мелодыі.
9.50. Футбол. На шляху да Уэмблі.
10.50, 22.50. Прэс-экспрэс.
11.20. Амерыка з М.Таратутам.
14.25. Прадпрымальнік.
15.05. Бізнес-клас.
15.20. "Басаногі Ген". Маст.фільм.
16.30. "Даніла і Няніла". Мультфільм.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Навіны культуры.
17.40. Чалавек і закон.
18.10, 20.35. Надвор'е.
18.15. Амерыка з М.Таратутам.
18.45. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Чалавек тыдня.
21.05. "Дэн Огаст". Тэлесерыял.
22.05. Матадор.
23.05. Музагляд.
23.45. Праграма "Х".
23.55. Аўта-шоу.

***Канал "Расія"***

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.30. Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. "Ванюша і велікан". Мультфільм.
8.35. Паехалі.
8.45. "Санта-Барбара".
9.35. Тэлегазета.
9.40. Сялянскае пытанне.
10.10. "Ніжагародскі оперны..."
10.55. Белая варона.
11.40. Сам сабе рэжысёр.
12.10. Бізнес у Расіі.
12.45. "Ракавыя яйкі".
14.25. "Настальжы" — музыка ўсіх пакаленняў.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Ваенны кур'ер.
16.20. Новая лінія. "Дай руку".
16.50. "Дзеці, якія вельмі многа ведалі". 2-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
18.00. "К-2" прадстаўляе: "САС".
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Блізкі круг".
21.50. "Раз, два, тры... буйным планам — РТР".
22.50. Аўтаімгненне.
22.55. Зоркі гавораць.
23.00. Спартыўная карусель.
23.05. Джэнтльмен-шоу.
23.35. "Руская рулетка".

### 14 мая, субота

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. Урокі здароўя.
9.00. "Узор душы".
9.20. Здароўе. Тэлечасопіс.
9.50. "Бабуля, навучы".
10.00. Паказвае Брэст.
11.00. Тыдзень планеты.
11.15. "Дзесяць гадоў без права перапіскі". Маст.фільм.
13.00. "Сталіца". Тэлечасопіс.
13.20. "Мой маленькі поні".
13.55. "Залатое пяро-94".
14.55. Дзесяць запаведзяў.
15.25. Рэспубліканскі сямейны сход.
16.55. Партрэт ў інтэр'еры.
17.55. "На Гановерскай выстаўцы".
18.25. "Выдатныя маркі аўтамабіляў".
19.00. "Чарапашкі ніндзя". Мультфільм.
19.35. "Нов і К"-топ-10.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. Пяць хвілін на жарты.
21.50. "Поезд у Галівуд". Маст.фільм.
23.30. НІКа.
23.45. "Каскад".
24.00. Відзьма-нявідзьма.

***Канал "Астанкіна"***

8.00. "Марафон-15" — малышам.
8.30. Тэлерадыёкампанія "Мір".
9.45. Ранішняя пошта.
10.15. Смак.
10.30. Экстра-НЛА.
11.00. "Яго вялікасць футбол". Д/ф.
11.30. Зямля людзей.
12.00. Кніжны двор.
12.35. Фільмы нашай памяці. "Вуліца поўная нечаканасцей".
14.00, 20.00, 23.20. Навіны.
14.25. "Рынальда Рынальдзіні — атаман разбойнікаў".
14.30. Лабірынт. Сакрэты эканамічнага поспеху.
15.20. "Над палямі ды над чыстымі". Спявае Л.Курдзюмава.
16.05. "Жыццё заапаркаў".
16.45. Рэха тыдня.
17.05. Брэйн рынг.
17.55. Да і пасля...
18.45. "Месца, дзе табе добра". 1-я серыя.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны плюс.
20.35, 23.25. Надвор'е.
20.45. "Месца, дзе табе добра". 2-я серыя.
21.40. "Майскія зоркі".
23.30. Футбол. Кубак Англіі.

***Канал "Расія"***

7.00, 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
8.25. Парламенцкі тыдзень.
8.55. "Лад"-галерэя.
9.25. Пілігрым.
10.10. Здарова жывеш.
10.25. Да Масквы — далёка.
11.10. "Дзікая планета".
12.35. Антракт. Спявае В.Казачэнка.
12.40. Сялянскаепытанне.
13.20. Вялікі хакей.
13.50. Суайчыннікі.
14.20. Астралогія кахання.
14.50. "К-2" прадстаўляе: "Зоркі Амерыкі".
15.20. "Гарадок". Забаўляльная праграма.
15.45. Аміка верытас.
16.30. Футбол без граніц.
17.25. Майстры. "Арцёмаў. Рэквіем".
18.15. Свята кожны дзень.
18.25. Вуснамі дзіцяці.
19.25. "Дакі". Маст.фільм.
21.30. Адыходзячая натура. Праграма Льва Анінскага.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Праграма "А".
23.55. "Штэмп".

### 15 мая, нядзеля

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. Слова да чалавека.
8.55. "Чарапашкі ніндзя". Мультфільм.
9.30. АВС-клуб.
9.45. "Поезд у Галівуд". Маст.фільм.
11.25. MTV. Лепшыя хіты.
11.55. Аэробіка.
12.30. Студыя "Існасць".
12.40. "Салавей".
13.55. Вяскоўцы.
14.25. Пра шахматы і шахматыстаў.
14.55. "Шматгалоссе". Народы Беларусі.
15.55. "Гінес-шоу".
16.25. "Асілак".
17.45. Тэлекрама.
18.00. "Чарапашкі ніндзя". Мультфільм.
18.35. Хакей на траве. Чэмпіянат Беларусі.
19.10. Дыялог у прамым эфіры.
20.00. Панарама.
20.35. Пад купалам Сусвету.
20.45. Калыханка.
21.05. Пяць хвілін на жарты.
21.15. "Злачынства і пакаранне". Маст.фільм.
23.05. "Не забудзьцеся ўключыць тэлевізар".
23.15. Футбол. Чэмпіянат Беларусі.

***Канал "Астанкіна"***

8.00. Арт-кур'ер.
8.30. Раным-рана.
9.00. Палігон.
9.30. Тыраж "Спортлато".
9.45. Пакуль усе дома.
10.15. Ранішняя зорка.
11.05. Новае пакаленне выбірае...
11.45. Пад знакам "пі".
12.30. Малыя гарады Расіі.
13.00. "Піф і Геркулес". Мультфільм.
13.10. "Падводная адысея каманды Кусто". Д/ф.
14.00, 17.30, 23.00. Навіны.
14.20. Тэлерадыёкампанія "Мір".
15.00. Клуб падарожнікаў.
15.50. Шпаргалка.
15.55. "Кот Фелікс", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды". Мультфільмы.
16.45. Жывое дрэва рамёстваў.
16.50. Панарама.
17.55. Смехапанарама. Вядучы — Я.Петрасян.
18.40. Тэлелоцыя.
18.55. Надвор'е.
19.00. "Боні і Клайд па-італьянску". Маст.фільм.
21.00. Нядзеля.
21.45. Спартыўны уік-энд.
22.00. Вакзал мары.
23.10. "Акварыум": візіт у Маскву.

***Канал "Расія"***

7.00, 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
8.30. Добрай раніцы, Еўропа.
9.00. Лепшыя гульні НБА.
10.00. Аты-баты...
10.30. "Дэ факта". Міжнародная праграма.
11.00. "Справа Румянцава". Маст.фільм.
12.40. Шэсць сотак.
13.20. Не высечы...
13.35. "Першая лэдзі экрана". Грэта Гарба.
14.05. Вінілавыя джунглі.
14.35. У свеце жывёл.
15.30. "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч". Мультфільмы.
16.30. "Формула-1".
18.30. Свята кожны дзень.
18.40. Каробка перадач.
19.25. "Вяртанне Дэлайлы".
21.00. "Рудольф Нурыеў — як ён ёсць". Д/ф.
21.45. У Ксюшы.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Поўня.

**Прэзідыум і выканком абласнога Савета дэпутатаў выказваюць глыбокае спачуванне дэпутату абласнога Савета, першаму намесніку старшыні Нясвіжскага райвыканкома Мікалаю Антонавічу Жуку ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю МАЦІ.**

**Калектыў Мінскай аб'яднанай дырэкцыі па будаўніцтву водагаспадарчых, саўгасных і іншых аб'ектаў выказвае глыбокае спачуванне інжынеру вытворчага аддзела В.В.Лаўрашчуку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.**

**Сябры і калегі-журналісты смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці дырэктара Уздзенскага філіяла ВА "Кінавідэапракат" аблвыканкома, члена Саюза журналістаў Івана Пятровіча БАРТОША і выказваюць шчырыя спачуванні сям"і памёршага.**




**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна-эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

**Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.**

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе"Мінскай праўды". Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
*Тыраж 17763.* *Індэкс 63923.* *Зак.№48.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12